# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ



4

1931

## УСІМ РАЙКАЛГАССАЮЗАМ, САЎГАСАМ, КАЛГАСАМ І СПЭЦЫЯЛІСТЫМ ПА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ БССР.

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

*У час гіганцкага будаўніцтва калгасаў і саўгасаў БССР на часопіс „Шляхі Калектывізацыі"—орган Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР—ускладзена задача поўна асьвятляць разьвіцьцё калгаснага будаўніцтва, жыцьцё і працу калгасаў, камун, арцеляў Савецкага Саюзу, і таму часопіс становіцца асабліва каштоўным для кожнага калгасьніка, рабочага саўгасу, спэцыялістага, зямельнага працаўніка.*

*У сучасны момант Наркамзем і Калгасцэнтр БССР ставяць аднэй з асноўных задач: асьвятляць увесь ход калгаснага будаўніцтва БССР на старонках часопісу „Шляхі Калектывізацыі".*

*Для таго, каб часопіс „Шляхі Калектывізацыі" знайшоў масу чытачоў і зьяўляўся кіруючым органам нашага калгаснага будаўніцтва, неабходна ўсім калгасам, саўгасам, арцелям, вытворчым таварыствам выпісаць у дастатковай колькасьці часопіс „Шляхі Калектывізацыі". Для гэтага можна скарыстаць як калектыўную падпіску калгасьнікаў, так і выпіску за маючыйся культфонд.*

*Выпіска часопісу „Шляхі Калектывізацыі" павінна вытварацца паасобку кожным калгасам, камунай, саўгасам.*

*Кожны калгасьнік, які цікавіцца, каб як найлепш перабудаваць сваё жыцьцё, жыць і працаваць у буйных калектыўных гаспадарках, як падняць таварнасьць і працу калгасаў, якія пастановы выносяцца кіруючымі органамі калгасаў,—усё гэта ён знойдзе ў часопісу „Шляхі Калектывізацыі", які каштуе зусім танна:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| *На год* | *24* | *нумары—* | *3 р.* |
| *„ 6 м.* | *12* | *„* | *1 р. 50 к.* |
| *„ 3 „* | *6* | *„* | *75 к.* |
| *„ 1 „* | *2* | *„* | *25 к.* |

*Кожны калгасьнік, саўгасьнік, камунар ня толькі сам павінен выпісваць і чытаць часопіс, але і весьці працу па распаўсюджваньню „Шляхоў Калектывізацыі" сярод аднаасобных бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і ўдзельнічаць у часопісу, пэрыядычна даючы карэспандэнцыі.*

*Наркамзем БССР РАЧЫЦКІ.*
*Старшыня Праўленьня Калгасцэнтру МІЦЬКОЎ.*

---

**МАЛЮНАК НА ВОКЛАДЦЫ:**
**Гатовая партыя трактароў да адпраўкі ў калгасы.**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | **№ 4-ЛЮТЫ-1931** | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ



НАМ ТРЭБА ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЦЬ АБ ТЫМ, ШТО МЫ—КРАІНА САВЕТАЎ, ШТО МЫ АБКРУЖАНЫ ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ, ШТО ХАЦЯ КАПІТАЛІЗМ ГНІЕ НА КАРАНІ, АЛЕ ЯШЧЭ ДАСТАТКОВА МОЦНЫ, КАБ НАПАСЬЦІ НА КРАІНУ БУДУЮЧУЮ СОЦЫЯЛІЗМ.

Варашылаў.



**Няхай жыве верны вартаўнік межаў СССР—Чырвоная армія і яе правадыр і арганізатар—УсеКП(б)!**

# Быць напагатове!

**„... Зьезд са ўсёй рашучасьцю ўказвае на неабходнасьць згуртаваньня ўвагі партыі і яшчэ большай мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства на ўзмацненьне абароназдольнасьці СССР, моцы і баяздольнасьці Чырвонай арміі, марскога і паветранага флёту“**

**(З рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).**

## Калгас—крэпасьць абароны

Пад выпрабаваным ленінскім кіраўніцтвам кампартыя пралетарскае краіны з вялікімі посьпехамі закончыла другі год пяцігодкі. Сьнежаньскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) і студзеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б на падставе посьпехаў двух год пяцігодкі, што адзначаецца новымі буйнейшымі дасягненьнямі, рабочая кляса ў справе сацыялістычнага будаўніцтва высунула для трэцяга рашаючага году пяцігодкі грандыёзную праграму сацыялістычнага будаўніцтва, за выкананьне якой будзе змагацца шляхам сацыялістычнага спаборніцтва і вышэйшых форм працы—ударніцтва ў краіне пралетарскай дыктатуры і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

*49 мільярдаў рублёў народнага прыбытку, 45 процантаў прыросту дзяржаўнай прамысловасьці, 17 мільярдаў рублёў капітальных укладаньняў, 12,7 мільярдаў кілёват гадзін электраэнэргіі, прырост на 2 мільёны чалавек рабочых і служачых, 143 мільёны гектараў пасеўнай плошчы, ня менш паловы сялянскіх гаспадарак, ахопленых колектывізацыяй*—вось асноўныя лічбы трэцяга рашаючага году пяцігодкі па Саюзу.

У асноўным у збожжавых раёнах калектывізацыя павінна ахваціць ня менш 80 проц. сялянска-бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, што будзе азначаць завяршэньне для гэтых раёнаў у асноўным суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Каб уявіць размах праграмы сацыялістычнага будаўніцтва, высунутай партыяй, неабходна ўявіць той факт, што адзін толькі прырост прадукцыі ў трэцім годзе пяцігодкі будзе роўны гадавой вытворчасьці прамысловасьці былой Расіі. Уся прадукцыя вытворчасьці ў Саюзе ў 1931 г. будзе ў тры разы больш гадавой даваеннай прадукцыі. Выканаўшы праграму трэцяга рашаючага году пяцігодкі, мы дасягнем поўнай пераваґі сацыялістычных элемэнтаў над індывідуальным сэктарам у вёсцы. Закончым пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі ў нашай краіне.

Мы ўступілі ў пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва па ўсяму фронту. Мы ўступілі ў пэрыяд сацыялізму.

Нашы посьпехі, наш эканамічны і палітычны рост павялічвае злобу і нянавісьць нашых клясавых ворагаў і капіталістычных і імпэрыялістычных краін, выклікаючы іх да актыўнага ўдзелу і падрыхтоўкі вайны супроць Савецкага Саюзу. Міжнароднае становішча ўсё больш і больш ускладняецца. Усё больш абвастраюцца супярэчнасьці паміж капіталістычнымі краінамі. Эканамічны крызіс у капіталістычных краінах усё павялічваецца. Усе супярэчнасьці капіталізму абвастраюць супярэчнасьць паміж СССР і капіталістычным сьветам. Імпэрыялістыя імкнуцца скарыстаць Савецкі Саюз як рынак для збыту сваіх тавараў, як крыніцу для здабычы сырцу для сваёй вытворчасьці. Таму імпэрыя-



Правадыры Чырвонай арміі т. Варашылаў і т. Гамарнік і старшыня СНК БССР т. Галадзед.

лістыя шалёна рыхтуюцца да новай сусьветнай вайны — да вайны супроць краіны пралетарскай дыктатуры.

Таварыш Сталін на XVI зьезьдзе казаў: „Кожны раз, калі капіталістычныя супярэчнасьці пачынаюць абвастрацца, буржуазія кідае свой погляд у бок СССР: ці нельга вырашыць тую ці іншую супярэчнасьць капіталізму, ці ўсе супярэчнасьці разам узятыя за кошт СССР, гэтай краіны Саветаў, цытадэлі рэвалюцыянізуючай адным сваім існаваньнем рабочую клясу і калёніі“.

З мэтай падрыхтоўкі вайны супроць Саюзу ствараюцца ваенныя саюзы імпэрыялістычных краін, распаўсюджваецца выдуманы савецкі дэмпінг, аб прымусовай працы ў СССР, капіталістыя імкнуцца акружыць Савецкі Саюз грашовай і эканамічнай блёкадай. Ня так даўно скончыў сваю працу працэс „прамысловай партыі“, які выявіў шалёную падрыхтоўку капіталістымі вайны супроць Савецкага Саюзу.

Небясьпека вайны ніколі ня была так відавочна як цяпер.

Напружанае міжнароднае становішча патрабуе ад нас, ад усёй пролетарскай грамадзкасьці найвялікшай увагі пытаньням абароны, павялічэньня ўвагі Чырвонай арміі і флёту. З нашымі плянамі сацыялістычнага будаўніцтва непарыўна павінна быць зьвязана і пытаньне абароны.

Рабоча-сялянская Чырвоная армія, народжаная рэвалюцыяй, загартаваная ў агні грамадзянскай вайны, цяпер уяўляе магутную сілу, якая забясьпечыць спакойную працу працоўных Савецкага Саюзу, па будове фундамэнту сацыялізму, па пабудове сацыялізму. Аднак працоўныя не павінны забываць таго, што будучая вайна, навязаная нам капіталістымі, будзе патрабаваць ад нас вялікіх рэзэрваў для папаўненьня часьцей арміі, а цяпер патрабуе разгортваньня вайсковай работы па ўзмацненьню тылу. Толькі з моцным тылам, толькі пры сталым забясьпячэньні часьцей, вялікіх клопатах аб байцох Чырвонай арміі разам з пралетарыятам, пад кіраўніцтвам яго авангарду—Ленінскай Камуністычнай Партыі будзем пераможна на справе праводзіць узмацненьне сацыялізму.

Кожны рабочы, кожны калгасьнік, селянін-бядняк і серадняк кожны дзень, кожную гадзіну павінны памятаць аб абароне сваёй пралетарскай краіны.

Тав. Ленін вучыў нас: *„Усякая рэва-*

*люцыя толькі тады чаго-небудзь варта, калі яна ўмее абараняцца*". Словы вялікага правадыра мы не павінны забываць і асабліва цяпер, калі падрыхтоўка вайны супроць нас ідзе шалёнымі тэмпамі. Мы павінны рыхтавацца да адпору.

13 гадавіну свайго існаваньня ў барацьбе і перамогах за справу сацыялізму Чырвоная армія адзначае вялізарнейшымі посьпехамі ў баявой рабоце, баявой палітычнай вучобе і сваім культурным узросьце. Цяпер перад арміяй высунута чарговая і надта важная задача — гэта *асіліць тэхніку, павярнуць свае мазгі да тэхнікі—за культурнага граматнага байца.*

Кожны баец, камандзір і палітработнік павінен ня толькі дасканала ведаць сваё аружжа, а таксама тактыку і якасьці радоў аружжа, з якімі і супроць якіх ён будзе змагацца. Знаць тактычныя дзеі розных машын, мото-мэханізаваных, броня-танкавых часьцей авіацыі. Мы павінны змагацца за высока-падрыхтаванага палітычна-сьвядомага і тэхнічна падкаванага байца і камандзіра Чырвонай арміі. На аснове сацыялістычнага спаборніцтва і яго вышэйшых форм ударніцтва дасягнула вялікіх посьпехаў у баявой падрыхтоўцы і клясавай злучнасьці сваіх радоў. Ударніцтва дало Чырвонай арміі новага байца, сьвядомага выконваючага свае абавязкі, паказваючага высокую сьвядомасьць рэвалюцыйнай дысцыплінаванасьці, які актыўна змагаецца за генэральную лінію партыі, за аўладаньне і захоўваньне вайсковай тэхнікі, за рацыяналізацыю, за вынаходніцтва і ўдасканаленьне баявой падрыхтоўкі. На шырока разгорнутым спаборніцтве і ўдарніцтве вырас сустрэчны баявы плян, які зьяўляецца сацыялістычным самаабавязкам— вышэйшай формай сацспаборніцтва.

У 13 гадавіну Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, пралетарская грамадзкасьць павінна ва ўвесь узрост паставіць пытаньне аб узмацненьні абароны краіны.

Кожны працоўны павінен паставіць перад сабою і сваёй арганізацыяй задачу, каб кожны завод, кожная фабрыка, кожны калгас і саўгас рашуча ставілі і настойліва дамагаліся ажыцяўленьня ўсёй савецкай грамадзкасьцю задачы абароны, каб кожная фабрыка, завод, саўгас, калгас зьявіліся сапраўднай крэпасьцю па абароне краіны пралетарыяту.

Калгас—апорны пункт абароны. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі зьяў-



Вайсковы паход Маскоўскіх лыжнікаў.

Наводка тэлефону.



Вайсковы паход Маскоўскіх лыжнікаў.

ляецца гіганцкім крокам наперад па шляху ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту і ўзьняцьця абароназдольнасьцьці Саюзу. Калгас зьяўляецца сапраўднай апорай Савецкай улады на вёсцы. На базе калектывізацыі ліквідуецца апошняя апора капіталізму ў СССР—кулацтва, чым яшчэ больш узмацняецца абарона краіны.

Калгасы па сваёй арганізацыі спрыяюць абароне. Калгасная дысцыпліна, забесьпячэньне тэхнічнымі сродкамі, палітычны і культурны рост калгасьнікаў выпрацоўваюць у калгасьнікаў неабходныя байцу якасьці. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі паляпшае дарогі, масты, пераправы, што надта важна ў справе абароны краіны. Апрача ўсяго гэтага колектывізацыя стварае патрэбныя ўмовы для разгортваньня сыстэматычнай работы па ваенізацыі працоўных. Калгасы павінны павярнуцца тварам да міжзборавай работы. Міжзборавая работа, якая зьяўляецца адным з асноўных зьвеньняў тэрыторыяльнага будаўніцтва, нажаль яшчэ не на належнай вышыні. Калгасы яшчэ не ўявілі важнасьці абароны, не разгарнулі вайсковай работы і не нясуць за яе стан адказнасьці, не клапоцяцца аб яе пастаноўцы.

Асоавіяхім работу на раёне яшчэ не перабудаваў. Райсаветы слаба кіруюць ячэйкамі. Ячэйкі ў сваёй большасьці ячэйкамі... 

Ячэйкі ў сваёй большасьці працуюць дрэнна. Калгасныя ячэйкі нічым не выдзяляюцца ад вясковых. Калгасы зьяўляюцца надзейнай апорай Савецкай улады на вёсцы, але яшчэ не зьяўляюцца поўнасьцю апорай вайсковай работы ў раёне.

У 13 гадавіну Чырвонай арміі мы ставім перад кожным саўгасам, калгасам і бядняцка-серадняцкай часткай вёскі задачу шырока разгарнуць і наладзіць вайсковую работу ў раёне. Калгас, саўгас павінен стаць надзейнай апорай вайсковай работы і асяродкам, вакол якога павінны групавацца вайсковыя сілы (усе гурткі) раёну, стаць сапраўнай крэпасьцю абароны краіны дыктатуры пралетарыяту.

Калгасы і ўся пралетарская грамадзкасьць у 13 гадавіну Чырвонай арміі па-баявому павінны паставіць пытаньне абароны і шырока разгарнуць масавую вайсковую падрыхтоўку працоўных.

М. Дзярэча.

**— Ні аднэй пядзі чужой зямлі ня хочам, але і сваей зямлі ні аднаго вяршка нікому не аддадзем** (Сталін).

# Набываем вайсковыя веды

*(Чырвонаармейская камуна, Ветрынскі раён)*

У справе ваенізацыі ў камуне імя N-кай стралковай дывізіі шмат чаго зроблена за апошні год (пачынаючы прыблізна з вясны 1930 г.).

Арганізавана ячэйка Асоавіяхіму з 78 камунараў. Пры ячэйцы існуе вайсковы гурток, які рэгулярна два разы ў дэкаду праводзіць заняткі. Заняткі вайсковага гуртка праходзяць ажыўлена. Члены Асоавіяхіму, асабліва моладзь—з вялікай зацікаўленасьцю выслухваюць указаньні кіраўніка гуртка. Усе члены ячэйкі Асоавіяхіму добра вывучылі вінтоўку, а таксама азнаёміліся з тактыкай сучаснага бою.

Ячэйка Асоавіяхіму зьявілася застрэльшчыкам у правядзеньні ў камуне „Дэкады абароны". Акрамя таго, што ў гэтую дэкаду была зьвернута вялікая ўвага па ўсіх галінах на ўзмацненьне абароназдольнасьці СССР—быў таксама наладжан вечар, у які сабрана ў фонд абароны краіны 60 руб. Завербавана некалькі новых членаў у ячэйку Асоавіяхіму.

За апошні час, дзякуючы працы ячэйкі Асоавіяхіму—наладзілі добрую сувязь камуны з вайсковымі часткамі Чырвонай арміі. Чырвоная армія шмат чым дапамагае ў працы камуны, асабліва ў сэнсе ваенізацыі.

Ячэйка Асоавіяхіму вялікую аддае ўвагу гаспадарчым пытаньням камуны. Ячэйка заўсёды мабілізуе ўвагу сваіх членаў вакол тых гаспадарчых задач, якія паўстаюць у парадак дню камуны. Напрыклад, у час уборкі і асеньняй сяўбы мінулага году, ячэйкамі былі заключаны паміж сваімі сябрамі дагаворы на сацспаборніцтва, дзякуючы чаму ўдзел асоавіяхімаўцаў у працы па ўборцы ўраджаю і ў сяўбе быў вельмі добры. Поўнасьцю былі зьнішчаны прагулы сярод членаў Асоавіяхіму, на 35 процантаў павялічылася норма выпрацоўкі.

Вельмі вялікую дапамогу аказвае ў працы ячэйкі насьценгазэта. Насьценгазэта „Камунар" адыгрывае вялікую ролю ў сэнсе ваенізацыі камунараў. Толькі дзякуючы таму, што насьценгазэта бязьлітасна біла па недахопах у працы ячэйкі Асоавіяхіму ў цэлым і асобных яе членаў—зараз дабіліся такога становішча, што вайсковыя заняткі наведваюць на ўсе 100 процантаў члены гуртка. А таксама палепшылася праца ўсіх асоавіяхімаўцаў.

Вельмі адбіваецца на працы ячэйкі і наогул на ўсёй працы па ваенізацыі ў камуне гэта тое, што зусім адсутнічае кіраўніцтва з раёну Асоавіяхімаўскай работай. Райсавет Асоавіяхіму, як відаць, зусім ня цікавіцца работай ячэек Асоавіяхіму па раёну. У далейшым на гэта трэба зьвярнуць належную ўвагу.

**В. Цэхановіч.**



Ля кузьні ў камуне.

# ПА-УДАРНАМУ РЫХТАВАЦЦА К СЯЎБЕ

ПРЫВЕСЬЦІ ТРАКТАРЫ Ў БАЯВУЮ ГАТОЎНАСЬЦЬ!

## Увага МТС

У БССР замест 6 МТС у 1930, у 1931 г. будуць працаваць 23 машына-трактарных станцыі. Будаўніцтва новых і замацаваньне ўжо маючыхся МТС у БССР набывае аграмаднае палітычнае значэньне. МТС ва ўмовах БССР прызваны служыць моцным рычагом у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, у справе выкарчоўваньня рэшткаў „прышчэпаўшчыны", якая зьяўляецца практычнай праграмай дзейнасьці контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў аграрным пытаньні на БССР.

Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм, які ставіў стаўку на рэстаўрацыю капіталізму ў БССР, усімі сіламі і ў тэорыі і ў практыцы імкнуўся загарадзіць доступ машыннай тэхнікі ў БССР. Смолічы, Гарэцкія і Прышчэпавы гэтага дабіваліся тымі скажэньнямі ў аграрнай палітыцы, якія яны абгрунтоўвалі і праводзілі ў жыцьцё. З аднаго боку, даказвалі нявыгаднасьць трактара ва ўмовах БССР, а з другога боку, праводзячы стаўку на кулацкую гаспадарку, будуючы хутары, атрубы і дробныя пасёлкі, накіроўваючы крэдыт у кулацкія гаспадаркі, перагараджвалі шляхі да калектывізацыі і трактарызацыі сельскай гаспадаркі.

Шалёнае супраціўленьне клясавых варожых сіл камуністычная партыя і Савецкая ўлада перамагае разгорнутым фронтам сацыялістычнага наступленьня. Апіраючыся на калгасьнікаў, батракоў і беднякоў у саюзе з серадняком, праводзячы палітыку ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, выкідаючы за борт сацыялістычнай стройкі ідэолёгаў буржуазнай рэстаўрацыі разам з іх шкоднымі тэорыямі і дзеяньнямі, партыя пасьпяхова перабудоўвае сельскую гаспадарку на сацыялістычны лад.

### Першая ў БССР

Арганізаваная ў лютым 1930 г. Койданаўская МТС за кароткі час свайго існаваньня паказала ўзор сапраўднай бальшавіцкай працы. У выніку сваіх гаспадарчых дасягненьняў па абслугоўваньню сацыялістычнага сэктару станцыя стала магутным фактарам далейшай калектывізацыі аднаасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак.

Пасьля пасьпяховага правядзеньня вясеньняй і асеньняй пасеўнай кампаніі 1930 г., перавыканаўшы плян па сваім Койданаўскім раёне, МТС узяла на буксір суседні Самахвалавіцкі раён.

Добрыя вынікі работы МТС, своячасовае выкананьне работ у саўгасах і калгасах яшчэ больш замацавалі гаспадарчае становішча калгасаў раёну, якія з большай выразнасьцю паказалі батраку, бедняку і серадняку шлях калектывізацыі гаспадаркі.

### Вытворчыя дасягненьні

Супроць 1929 г. пры дапамозе МТС, сацыялістычны сэктар раёну (саўгасы і калгасы) значна павялічыў пасеўную плошчу ў вясеньнюю і асеньнюю пасеўныя кампаніі па старапахатных землях, а таксама пашырыў пасеўную плошчу за кошт распашкі цаліны залежаў.

*„... камуны, арцельная апрацоўка, таварыствы сялян—вось дзе спасеньне ад нявыгод дробнай гаспадаркі, вось у чым сродак падняцьця і паляпшэньня гаспадаркі, эканоміі сіл і барацьба з кулацтвам, туняядзтвам і эксплёатацыяй...“*

*(ЛЕНІН).*

## Скарыстаньне трактара і сабекошт работ

Гадавая нагрузка па палявых работах, бяз уліку стацыянарных работ, малацьбы і інш., за сэзон 1930 г., складае ў пераводзе ўсіх работ на пахату 34,5 *га* на трактара-сілу. Што складае для трактара Джон-Дзір (15—27 HP), якім пераважна і ўкамплектавана станцыя—517,5 *га* на трактар або, выходзячы з таго, што на *га* пахаты гэтым трактарам патрабуецца 3 гадзіны працы, атрымліваецца 1.552,5 гадзін працы на трактарах.

Гэтая лічба зьяўляецца паказчыкам вялізарных магчымасьцяй у справе мэханізацыі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі ў параўнаньні з капіталістычнай сыстэмай, дзе нават у самай перадавой краіне, як ПАЗШ гадавая нагрузка на трактар дасягае 400—600 гадзін.

Гэтыя лічбы сьведчаць аб беспадстаўнасьці сьцьвярджэньняў шкоднікаў нацдэмакратаў аб нявыгаднасьці ўжываньня трактароў ва ўмовах БССР. Разам з тым, гэта лічба зьяўляецца яшчэ далёка невыстарчальнай, станцыя за першы год сваёй працы не пасьпела ўжыць усе захады для больш поўнага скарыстаньня трактараў. Прычыны несваячасовага ўкамплектаваньня станцыі ўборачнымі машынамі, трактарная цяга ня ўжывалася ў гэтым сэзоне на ўборачных работах.

МТС у пасеўнай кампаніі бягучага 1931 году патрэбна загадзя ўлічыць недахопы мінулага. Яшчэ шырэй разгарнуць сацыялістычныя мэтады ўдарніцтва і сацспаборніцтва. МТС у БССР павінны падводзіць лічбу гадавога скарыстаньня трактароў.

## Увага МТС

Вялізарнейшы рост МТС у БССР (23 станцыі) патрабуе вялікай увагі з боку кіруючага цэнтру, упаўнаважанага трактарацэнтру і інш., у сваячасовым разгортваньні будаўніцтва рамонтных майстэрняў, арганізацыі баз для хаваньня гаручага і змазачных матар'ялаў, сваячасовай падрыхтоўкі кадраў кваліфікаваных работнікаў.

Гэта работа на сёньнешні дзень не пастаўлена ўдарнымі тэмпамі, з боку адпаведных арганізацый патрэбен рашучы пералом у гэтай справе, каб забясьпечыць сваячасовае і бесьперабойнае выкананьне вытворчай праграмы МТС.

Недаацэнка ролі МТС месцамі выяўляецца ў нясур'ёзным эканамічным абаснаваньні раёнаў, дзе будуць будаваць МТС, недастатковым разгортваньнем работы па прыцягненьню да будаўніцтва МТС сродкаў калгасьнікаў і наогул некаторыя раённыя як партыйныя, так і савецкія арганізацыі ня лічаць справу будаўніцтва МТС сваёй непасрэднай штодзеннай працай.

„У сувязі з гэтым справа ўтварэньня і замацаваньня МТС павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый. Цэнтральны камітэт папярэджвае ўсе партыйныя органы супроць якой-бы то ні было недаацэнкі ролі МТС, якія побач з саўгасамі зьяўляюцца асноўнымі апорнымі пунктамі суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы“ (Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 29/XII-30 г.).

**У. Бяркоўскі.**

# Рыхтуемся да бальшавіцкай сяўбы

*(Ліст з Полацку)*

Першую бальшавіцкую сяўбу калгасы Полацкага раёну правялі па-ўдарнаму. Правёўшы ўборку ўраджаю і разьмеркаваўшы ўраджай і наогул прыбытак, калгасы ня спыніліся на посьпехах, а пачалі ўпарта шпаркім тэмпам рыхтавацца да 2-й бальшавіцкай вясны.

### Маецца прыліў у калгасы

Асабліва добра распачалі падрыхтоўку да веснавой сяўбы—калгасы „Чырвоны Кастрычнік“ і „Ленінскі Шлях“, Юравіцкага сельсавету. Вытворчыя пляны складзены, насеньне поўнасьцю ачышчана. Гатунковага насеньня дастаткова хапае за выключэньнем лёну. Толькі вось Райкалгассаюз па-галавацяпску падыйшоў да складаньня вытворчых пляноў. Напрыклад, калгас „Ленінскі Шлях“ даў кантрольныя лічбы кожнай жанчыне зьвязаць у дзень 200 снапоў гатовымі павязкамі ў той час, як яна лёгка можа зьвязаць 1.000 снапоў.

Дзякуючы пасьпяховаму ходу падрыхтоўкі да сяўбы—шэрагі калгасьнікаў сталі папаўняцца. Бядняцка-серадняцкая частка вёскі пераканалася ў карысьці калгасу і зараз падаюць заявы аб уступленьні ў калгас. Калгас „Кастрычнік“ за апошні час прыняў у свае шэрагі 25 аднаасобных гаспадарак. Калгас „Ленінскі Шлях“ прыняў 6 гаспадарак. З вёскі Вырвіна, Юравіцкага сельсавету ўступіла ў калгас 8 гаспадарак, з якіх і арганізавалі аддзяленьне калгасу „Кастрычнік“. З вёскі Замхі запісалася ў калгас 7 гаспадарак. Прыліў у калгасы з кожным днём павялічваецца. Зараз рамантуюцца сельскагаспадарчыя машыны, праводзіцца збор попелу і г. д.

Калгас Сталіна прыняў у свае шэрагі за апошні час толькі 4 гаспадаркі.

### Майстэрні ня маюць нагрузкі

У горадзе Полацку ёсьць сельскагаспадарчая майстэрня, якая рамантуе ўсялякія сельскагаспадарчыя машыны, інвэнтар, але дрэнна толькі тое, што машыны для рамонту калгасы не вязуць. Вінават у гэтым райкалгассаюз, бо апошні нічога не зрабіў у галіне рамонту машын і інвэнтару. Райкалгассаюз пакуль што ўсьпеў даць толькі 70 нарадаў на рамонт.

Трэба ўрэшце сур'ёзна ўзяцца за падрыхтоўку да сяўбы, інакш райкалгассаюз можа праваліць такую важнейшую палітычную кампанію.

**Язэп Саўчанка.**



Вайсковы паход Маскоўскіх лыжнікаў.

Стральба з кулямёту „Максім“.



Брыгада чырвонаармейцаў за рэмонтам с.-г. інвэнтару ў калгасе.

# Больш увагі веснавой сяўбе

Ня гледзячы на важнасьць вясеньняпасеўнай кампаніі гэтага году і неабходнасьць своечасовай падрыхтоўкі да правядзеньня вясеньняй сяўбы, Чэрыкаўскі раён у гэтым напрамку значна адстае.

Шмат якія калгасы раёну як: „Чырвоная Зара“, „Чырвоны Гіганг“, „Іскра“ і іншыя калгасы нават да гэтага часу поўнасьцю ня ссыпалі насенны фонд. Адносна рамонта інвэнтару, збору попелу, абмену гатунковага насеньня, ачысткі насеньня і г. д. гаварыць зусім ня варта,—нічога ня зроблена ў гэтым напрамку.

Такім чынам зараз-жа патрэбна мабілізаваць увесь актыў раёну (асабліва аграномаў) і бальшавіцкімі тэмпамі ўзяцца за працу падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Трэба ў першую чаргу скласьці вытворчыя пляны ў калгасах (бо няма ні ў адным) і плянаў пашырэньня плошчы культур гэтай вясною, давёўшы гэтыя пляны да кожнага двара і калгасьніка. Закончыць збор насеннага фонду і прыступіць да ачысткі насеньня на гатунковае (калгас „Беларуская Вёска“). Своячасова запатрабаваць ад райкалгассаюзу недастаючых культур, асабліва тэхнічных культур і кармавых траў („Чырвоная Зара“).

Арганізаваць працу па збору попелу ў кожнай гаспадарцы і калгасе. Нарыхтаваць патрэбную колькасьць штучнага ўгнаеньня (супэрфасфат, тамасшлак, калійная соль і г. д.) і вапны для глебы, якая патрабуе яе. Прыступіць к рамонту і набыцьцю сельскагаспадарчага інвэнтару, машын.

Трэба ўзяць напрамак на пашырэньне плошчы тэхнічных культур (лён, каноплі), кармавых траў і клубнякараньплодаў (бульба, бручка, бурак, морква, турнэпс). Узмацніць працу па будаўніцтву сьвінарнікаў (у калгасе „Беларуская Вёска“ матар'ял ляжыць яшчэ ў лесе).

У мінулым годзе ў раёне было 10 трактароў; працавалі яны паасобку, было шмат прастояў, а ў Халмянскім сельсавеце адзін трактар за ўсё лета апрацаваў толькі 2 гектары поля.

У выніку ўсяго гэтага трактары раёну сябе ў працы не апраўдалі. Усё гэта адбылося дзякуючы таму, што ня была прароблена арганізацыйная праца ў сэнсе рацыянальнага скарыстаньня трактараў.

У гэту веснавую сяўбу трэба ўлічыць усе памылкі мінулага году і мабілізаваць усю ўвагу партыйнай арганізацыі, камсамолу, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў вёскі на барацьбу з кулаком, за калектывізацыю і перамогу ў веснавой сяўбе.

**Ю. Снытко.**

# Саўгаснае будаўніцтва

## I

„...САЎГАСЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ УЗОРАМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ“

(З рэзалюцыі XIII зьезду КП(б)Б).

## Задачы саўгасаў у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы

Веснавая пасеўкампанія ў саўгасах у бягучым годзе набывае выключна актуальнае як гаспадарчае, так і палітычнае значэньне. Асабліва адказная задача стаіць перад тымі саўгасамі, якія карэнным чынам вымушаны перабудаваць сваю арганізацыйна-гаспадарчую структуру ў сувязі з наданьнем ім адпаведнай спэцыялізацыі і вызначэньнем цьвёрдага промфінпляну.

Мэтады старой працы саўгасаў, ня меўшых у сябе ў большай частцы вызначанага спэцыялізаванага напрамку, зводзіліся да самых спрошчаных прыёмаў працы. Кіраўнікі гаспадаркі ня маючы ў сябе строга вызначаных заданьняў, ня імкнуліся да плянавай увязкі і строгай падпарадкаванасьці паміж сабой усіх галін гаспадаркі. Недахопы патрэбнага насеньня, працоўнай ці цягавай сілы вялі да заняцьця пасеўплошчы другараднымі культурамі, ня маючымі гаспадарчага значэньня, альбо кідалі зусім незанятым, у выніку чаго пасеўная плошча не пашыралася. Гаспадаркі ў большай сваёй колькасьці былі унівэрсальнага тыпу, без вызначэньня спэцыялізацыі, чаму і склад расьлін у полі часта быў выпадковы.

У гэту вясну, галоўнейшыя задачы, якія стаяць перад саўгасамі, наступныя: 1) Максымальнае пашырэньне пасеўплошчы, галоўным чынам пад тэхнічнымі і кармовымі расьлінамі, 2) стварэньне кармовай базы ў жывёлагадоўчых саўгасах, 3) пашырэньне жывёлагадоўлі, 4. садзейнічаньне суцэльнай калектывізацыі акаляючых саўгасаў батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

У 1931 годзе плошча многіх саўгасаў значна пашырэецца. Гэта мерапрыемства ўскладняе працу саўгасаў па асваеньні плошчы і патрабуе вялікай напружанасьці з боку рабочых, кіраўніцтва саўгасу і мабілізацыі грамадзкае думкі вакол гэтага пытаньня.

Карэнныя зьмены павінны адбыцца і ва ўнутранай структуры паляводзтва. Раней існаваўшыя процантныя суадносіны культур у севазвароце, патрэбна будзе замяніць у бок прыстасаваньня да вызначанага спэцыялізаванага напрамку і плянавых заданьняў гаспадаркі. У саўгасах жывёлагадоўчых уся ўвага павінна быць зьвернута ў бок значнага пашырэньня кармовых культур для забясьпечаньня сакавітымі і грубымі кармамі і стварэньня штучных выпасаў для жывёлы. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на сілосныя культуры, якія займаюць значную ролю ў кармовым раёне жывёлы. Гаспадаркі насенаводнага, садоваагароднага і інш. тыпаў павінны накіравацца ў бок найбольшага выкарыстоўваньня плошчы пад насеннымі гароднымі і тэхнічнымі культурамі.

Усё гэта ставіць перад саўгасамі задачу загадзя мець вытворчыя пляны, якія-б забясьпечвалі магчымасьць выяўленьня ўсіх недахопаў і іх выпраўленьня як у веснавой пасеўкампаніі, так і на працягу ўсяго году.

Рашуча прыступіць да выкананьня тых мерапрыемстваў, якія прапанаваны ўрадавымі органамі. Падвышэньне ўраджайнасьці, як галоўны вымернік нашых посьпехаў, павінна быць дасягнута: збожжа на 110 проц., тэхкультур на 35 проц., бульбы на 50 проц. у параўнаньні з сярэднімі ўраджаямі за 3 гады да пяцігодкі ў савецкіх гаспздарках. Засеў гатунковым насеньнем ня менш

40 тысяч *га*, насеньне ўсё павінна быць прасартавана і пратручана. Па лініі пашырэньня жывёлагадоўлі перад саўгасамі стаіць задача дабіцца рашучай перамогі адставаньня ў разьвіцьці жывёлагадоўлі. Трэба імкнуцца да выкананьня ўсіх заданьняў, якія ўскладаюцца на савецкія гаспадаркі плянам разьвіцьця жывёлагадоўлі БССР. Саўгасы сьвінаводтрэсту пашыраюць у 1931 годзе лік галоў да 70 тыс. сьвінаматак. Па буйнай рагатай жывёле па 4-х трэстах да 44 тысяч галоў. Стварэньне спрыяючых санітарных умоў, зьнішчэньне прапажы, забясьпечанасьць кармамі, палепшаньне ўтрыманьня і вэтнагляду—на гэтых пытаньнях завастраецца ўся ўвага саўгасаў.

XII зьезд КП(б)Б на саўгасы БССР, улічваючы спэцыфічныя ўмовы БССР усклаў наступныя задачы: ...„саўгасы павінны быць узорам сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і асноўным рычагом вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі і разьвіцьця тэхнічных культур у БССР“... Побач з гэтым зьезд прапануе максымальна зьвярнуць увагу на сапраўдную арганізацыйную дапамогу калгасам і бядняцка-серадняцкім аднаасабовым гаспадаркам, на арганізацыю шэфства рабочых саўгасаў над калгасамі, на наданьне асаблівай увагі спэцыялізацыі сумежных калгасаў і аднаасабовых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у суадпаведнасьці з вядучым напрамкам саміх гаспадарак саўгасаў.

Практычныя галоўнейшыя мерапрыемствы павінны зводзіцца да наступнага: неабходна ў кожным саўгасе стварыць брыгады з рабочых і спэцыялістых, за якімі замацаваць паасобныя калгасы і вёскі для правядзеньня рэгулярнай працы. У калгасах, дзе адчуваецца слабае кіраўніцтва з арганізацыйнага боку, вылучыць лепшага рабочага для непасрэднай кіруючай працы ў часе веснавой сяўбы. Складаньне вытворчых плянаў калгасаў мэтазгодна праводзіць пры непасрэдным удзеле спэцыялістых і рабочых саўгасаў. Правядзеньне вытворчых нарад як па пытаньнях калгаснага, так і саўгаснага будаўніцтва вытвараць супольна, што будзе мець значную карысьць, і той вопыт, які накапілі ў сябе саўгасы па пытаньні будоўлі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі, неабходна перанесьці ў калгасы. Абмен сацыялістычным вопытам павінен стаць штодзеннай неабходнасьцю.

Па лініі выкананьня агра-і зоомінімуму саўгасы павінны ўзяць вядучую ролю. Увесь добраякасны насенны матэрыял саўгасы па задавальненьні сваіх патрэб, абавязаны абмяняць калгасам і аднаасабовым бядняцка-серадняцкім гаспадаркам. Для прачысткі і пратручваньня насеньня патрэбна арганізаваць перасовачныя пункты і пад строгім кантролем спэцыялістых імкнуцца правесьці 100-процантную ачыстку насеньня. Ніводзін *га* ў калгасах і аднаасабных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках не павінен засявацца неачышчаным насеньнем.

У падрыхтоўцы да рамонту інвэнтару саўгасы павінны прыняць самы актыўны ўдзел. Рамонт больш складанага інвэнтару, пры адсутнасьці ў некаторых калгасах высока-кваліфікаваных кавалёў і стальмахоў, саўгасы павінны правесьці сваімі сіламі. Маючыйся лішковы сельска-гаспадарчы інвэнтар саўгасы павінны перадаць на час пасеўкампаніі калгасам.

Па шляху падрыхтоўкі кадраў саўгасы таксама павінны адыграць вялікую ролю. Стварэньне курсаў па розных галінах сельскай гаспадаркі дасьць магчымасьць калгасьнікам на вопыце саўгасаў набыць належныя веды для хутчэйшага ператварэньня адсталай сялянскай гаспадаркі на сацыялістычны лад.

Мэтады сацыялістычнай арганізацыі працы і тыя станоўчыя вынікі, якія ёсьць у саўгасах, патрэбна перанесьці цалкам у калгасы. Да гэтага часу некаторыя саўгасы слаба ўдзельнічалі ў розных сельска-гаспадарчых кампаніях, і ня былі цесна зьвязаны з грамадзкасьцю; абмену сацыялістычным вопытам, за рэдкім выключэньнем—амаль ня было.

У цэлым саўгасы адыгралі вялікую ролю, але гэтая роля яшчэ недастаткова. Саўгасы павінны стаць у авангардзе на самых перадавых пазыцыях барацьбы за суцэльную калектывізацыю. Трэба ведаць, што кулацтва ўсімі мерамі імкнецца да зрыву і пашкоджаньню бальшавіцкаму правядзеньню вясны. Пры дапамозе

рабочае часткі саўгасаў і іншых арганізацый патрэбна зламаць супраціўленьне кулацтва, патрэбна ачысьціць засьмечаную частку калгасаў ад кулакоў, недапушчаць кулака ў калгасы, пасьлядоўна праводзіць у жыцьцё задачу ліквідацыі кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі.

Галоўная роля ў гэтым нячуваным у сьвеце зруху павінна належыць савецкім гаспадаркам, як прадпрыемствам пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу. М. Б.

# Саўгас Адкулавічы

(*Капыльскі раён*)

Ад м. Капыль — саўгас Адкулавічы 14 кілёмэтраў, ад чыгункі (ст. Слуцак) — 20 кілёмэтраў.

Гаспадарка Адкулавічы ўваходзіць, як аўтаномная частка, у адну вялікую гаспадарку Доктаравічы, да якой яшчэ належыць саўгас Чыжэвічы. Абшары гэтых трох саўгасаў займаюць каля 2000 *га*. Гэтыя тры саўгасы належаць да Маскоўскага „Зернатрэсту“.

Саўгас Адкулавічы займае плошчы 404 *га* з якой:

| | |
|---|---|
| пахаці | 204,8 *га* |
| сухадольнага сенакосу | 32,7 „ |
| сенакосу балотнага | 56,8 „ |
| лесу | 30,5 „ |
| пашы | 61,2 „ |
| сад | 1,5 „ |
| агароду | 2.0 „ |

Галоўныя галіны гаспадаркі — паляводзтва (зернавая культура) і жывёлагадоўля. Галоўная ўвага зьвернута на павялічэньне ўраджайнасьці асноўных зернавых культур: жыта, ячмень, пшаніца, авёс.

Галоўным угнаеньнем у саўгасе зьяўляецца гной і лубін. За апошнія два гады шырока сталаўжывацца штучнае ўгнаеньне, як-та:— супэрфосфат, касьцяная мука, фосфарная мука, а таксама вапнаваньне глебы. Уся плошча пад пасевамі культур (зернавых і бульбы) — 181 *га* занята чыстасорнымі культурамі.— „Іванаўскае“ жыта, „Высока-Літоўская“ пшаніца авес — „Пабеда“, бульба — „Вольтман“ і іншыя.

Зьвернута ўвага ў саўгасе на павялічэньне плошчы пад канюшыну, віку, якія, па-першае, спрыяюць павялічэньню ўраджайнасьці, а па-другое, замяняюць сена для коняй.

Усё іржоньне ўвосень узорваецца на зяб.

Апрацоўка глебы пад пасевы пастаўлена на належную вышыню (нормальна ўзорваецца, мякка скародзіцца). Усё гэта разам спрыяе падвышэньню ўраджайнасьці асноўных зернавых культур. Так у 1929 годзе ўраджайнасьць з 1 *га* пасеву жыта была — 1.280 *кглр* зерня або 80 пуд., ячменю — 1.120 *клгр* або 70 пуд., аўса — 1440 *клгр* або 90 пуд.

У 1930 годзе вынікі значна лепшыя: 1 *га* жыта даў 1.600 *клгр* зерня або 100 пуд., ячменю — 1.280 *клгр* або 80 пуд., аўса — 1.608 *клгр* або 100,5 п., пшаніцы — 1920 *клгр* або 120 п. і бульбы — 1100 п.

Сельскагаспадарчых машын калгас мае даволі. Калі ў час „гарачай“ уборачнай кампаніі чаго-небудзь нехапае — зараз-жа дастаўляюць машыну з суседняга саўгасу Дократавічы. Сувязь з гэтым саўгасам — самая блізкая.

Увосень 1930 г. падымалі на зяб глебу трактары (тры) Капыльскай трактарнай калёны.

Рабочых коняй саўгас мае 25 штук. Некаторыя з іх старыя, якія патрабуюць замены.

Саўгас мае паравы млын, да якога прымайстравана яшчэ і пільня. Апалам у млыне служыць торф.

Пільня і млын прыносяць вялікі прыбытак саўгасу. Сад, што займае 1,5 *га* і ў якім 140 пладовых дрэў (яблыны антонаўкі, ігрушы — бэры, сапяжанкі) прыносіць зусім нязначны прыбытак гаспа-

дарцы. Гэта тлумачыцца тым, што дрэвы ў садзе старыя і, як гавораць, аджылі свой век. У гародзе, які займае 2 *га*, разводзяцца сталовыя буракі, капуста, салата і інш. гародніна.

Будынкі ў саўгасе старыя і патрабуюць капітальнага рамонту. Усяго будынкаў 11 карпусоў, з якіх 5 карпусоў жылых; астатнія шэсьць—хлявы (для коняй, для кароў), аборы, сьвіран. Вясной 1931 г. будзе распачата будова вялікага жылога дому. На беразе пруда маецца добрая лазьня. Форма арганізацыі працы ў саўгауе бесьперапынка.

### 16 літраў малака ў дзень

Хоць у саўгасе галоўная і асноўная галіна—паляводзтва, але добра пастаўлена і жывёлагадоўля. Усёй рагатай жывёлы гаспадарка мае 125 штук, з якіх 65 дойных кароў. Акрамя гэтага ёсьць чатыры быкі-вытворцы. Парода кароў палепшаная; чырвоная беларуская, швіц, галяндзкая (мэтыс).

Сярэдні гадавы ўдой 1930 году ад лепшай каровы—3 600—3.800 літраў малака, ад горшай каровы ў год—720—960 літраў малака. Ёсьць каровы, што даюць у дзень (у летнюю пару) 15—16 літраў малака.

Для кароў засейваецца некаторая плошча (2 *га*) кармовымі буракамі. Сіласаваньне кармоў для жывёлы ў 1930 г. ня зроблена ў саўгасе Адкулавічы, а зроблена ў саўгасе Доктаравічы (цэнтр саўгасаў). Увосень і зімой для кароў прывозяць з с. Доктаравічы перагнаную брагу (у с. Доктаравічы маецца вялікі сьпірытусовы завод). Брага мяшаецца з сечкай і даецца каровам—ад чаго ўдой малака павялічваецца.

Сьвінагадоўля ў саўгасе—другарадная галіна і нязначная. Маецца 70 сьвіней іеркшырскай пароды. Сьвінарнік добра прыстасаваны для жыцьця сьвіней.

### Рабочыя—ўдарнікі

Усяго жыхароў у саўгасе 87 чал. Рабочых 25 чал. Лік сэзоньнікаў мяняецца, але не перавышае 23 чал.

У час веснавой пасеўнай і васеньняй уборачнай і пасеўнай кампаній саўгасу прыходзіцца наймаць падзёньнікаў.

У час веснавой пасеўнай кампаніі 1930 г. і часе летняй уборачнай рабочыя аб'явілі сябе ўдарнікамі і ня бралі выхадных дзён на працягу 25 рабочых дзён. Выклікалі на сацыялістычнае спаборніцтва па хутчэйшаму заканчэньню ўборачнай кампаніі рабочых саўгасаў Доктаравічы і Чыжэвічы.

Трэба адзначыць, што ў 1930 г. у с. Адкулавічы веснавая пасеўная і летняя ўборачная кампаніі прайшлі вельмі хутка, арганізавана, акуратна. Рабочыя працавалі ахвотна па 10—11 гадзін у дзень.



Рабочы саўгасу ўносіць на пабудову дырыжабля.

Лепшым рабочым-ударнікам была дадзена прэмія.

К ліку лепшых ударнікаў адносяцца: Купрыян Пэнталь, Антось Гурыновіч, Меляшкевіч, Кіеня, Несьцярчук, Аўхім Гірыновіч; з жанчын Ганна Бубноўская.

У саўгасе маецца камсамольская ячэйка (9 чал.) і ячэйка КП(б), у якой 7 рабочых-камуністых, з якіх 2 жанчыны.

Ёсьць клюб, дзе рабочыя ставяць сваімі сіламі спэктаклі, праводзяць заняткі палтгуртка. Пры клюбе ёсьць бібліятэка (каля 200 кніжак). Рабочыя вельмі цікавяцца чытаньнем кніг, зьнішчаюць п'янкі, арганізоўваюцца культурныя вечары. У клюб выпісваюцца газэты: „Сельско-хозяйственный рабочий“, „Рабочий“, „Зьвязда“, „Беларуская Вёска“, „Савецкая Беларусь“, „Правда“ і інш.

Сярод жанчын ёсьць няпісьменныя— 12 чалавек. Зімой і летам працуе лікпункт. Летам 1930 г. працавала дзіцячая пляцоўка, якой было ахоплена 21 дзіця. Пляцоўка працавала 2 з пал. месяцы, было затрачана 460 руб. грошай.

Да 1930 году саўгас Адкулавічы быў дэфіцытны, калі загадчыкам гаспадаркі быў Лук'янчук, сярод рабочых ня было працоўнай дысцыпліны. Цяпер кіраўнік калгасу—рабочы-вылучэнец, што 25 год быў батраком у былым маёнтку Рыме т. **Мікалай Кашалевіч**, які змог наладзіць працу і падняць на належную вышыню саўгас.

Саўгас прымае вялікі ўдзел у калектывізацыі ваколічных вёсак. У студзені 1930 г. ударная брыгада рабочых саўгасу вяла растлумачальную працу ў вёсках Вуглы, Станькі, Астравок, дзе і былі арганізаваны калектывы. Саўгас дапамагае ў працы калгасу Лекерта. У часе веснавой пасеўнай кампаніі 1930 г. сяляне беднякі з в. Гарнастай, Вуглы, дармова ачышчалі на трыеры зерне, карысталіся плугамі, баронамі.

Рабочыя і служачыя саўгасу, як адзін, падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ ў колькасьці месячнага заработку.

**Мікалай Войтка.**



Саўгас адсылае малако ў горад.

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

„ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА“.

**Сталін.**

## Рашэньні партыі—у масы

### Аб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і веснавой пасеўнай кампаніі

**Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу т. Рачыцкага**

1. Прайшоўшы 1929-30 гаспадарчы год—2-гі год пяцігодкі—зьявіўся годам новых і буйнейшых дасягненьняў партыі і рабочае клясы ў справе сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя вялізарнейшыя посьпехі (асабліва па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі) дасягнуты ў выніку правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі на індустрыялізацыю краіны, у выніку разьвіцьця буйнай індустрыі ў першую чаргу і тым самым забесьпячэньня тэхнічнай базы для сацыялістычнай рэконструкцыі сельскаіі гаспадаркі, у выніку бязьлітаснай барацьбы супроць кулацтва і рашучай барацьбы на два фронты ўнутры партыі, як супроць „левых“, так і правых апартуністаў—агентуры кулацтва ўнутры партыі, асноўнай небясьпецы на даным этапе.

КП(б)Б, пасьлядоўна ажыцьцяўляючы генэральную лінію партыі ва ўмовах Беларусі, згуртоўваючы вакол яе рабочыя масы, апіраючыся на калгасьнікаў і беднату ў саюзе з серадняком, рашуча выкрыла і вядзе далей бязьлітасную барацьбу з „прышчэпаўшчынай“, як кулацка-шкодніцкай агентурай, прабаваўшай накіраваць разьвіцьцё сельскай гаспадаркі па капіталістычным шляху, і дабілася карэннага павароту і посьпехаў у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Гэта выяўляецца ў тым, што:

а) калгасны сэктар на 15-І 1931 г. складае 15 проц. супроць 3,9 проц. у пачатку 1930 году;

б) зямельная плошча пад саўгасамі пашырана ў 3 разы ў параўнаньні з 1928 годам;

в) таварная прадукцыя сацыялістычнага сэктару ў 1930 годзе складае звыш 30 проц. усёй таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі;

г) зроблен рашучы паварот у бок спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Паказальным зьяўляецца той факт, што калгасы ўжо на першай сваёй арганізацыйнай стадыі далі аграмадныя перавагі калектыўнай вытворчасьці перад аднаасобнай (больш высокая эфэктыўнасьць скарыстаньня інвэнтару і цягавай сілы, павышэньне таварнасьці, а разам з тым і даходнасьці на калгасьніка ў параўнаньні з аднаасобнікам, у праяўленым вытворчым энтузіязьме калгасьнікаў у часе веснавой пасеўнай кампаніі, уборачнай і інш.)

Разам з тым пленум ЦК адзначае нездавальняючую арганізацыю працы ў калгасах, наяўнасьць вялікай колькасьці фактаў безгаспадарчасьці ў саўгасах і калгасах і мала здавальняючае правядзеньне ўборачнай кампаніі і нездавальняючы ход загатовак у значнай частцы калгасаў і саўгасаў, наяўнасьць засьмечанасьці некаторых калгасаў кулацкімі элемэнтамі, несваячасовае разьмеркаваньне ўраджаю.

2. Выходзячы з дасягнутага ўзроўню калектывізацыі, разгортваньня МТС, саўгаснага будаўніцтва і павароту бядняцка-серадняцкіх мас на шлях калектывізацыі, створана магчымасьць ва ўмовах БССР дасягнуць процанту калектывізацыі ў веснавую пасеўную кампанію да 30 проц. і да канца 1931 году—да 45 проц.

Пленум ЦК КП(б)Б ставіць перад партарганізацый, як цэнтральную, асноўную задачу—павышэньне тэмпаў калектывізацыі. Падрыхтоўка і правядзеньне надыходзячай веснавой пасеўнай кампаніі павінна адбыцца пад знакам баявой мабілізацыі усёй КП(б)Б на яе правядзеньне і арганізацыі новага, больш магутнага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы пад знакам рашучай барацьбы з кулаком, які зьяўляецца галоўным ворагам калектывізацыі. Партыйныя арганізацыі павінны арганізаваць ня толькі калгасьнікаў, але і аднаасобнікаў—беднякоў і сераднякоў для бязьлітаснага наступленьня на кулацтва па ўсім фронце (збожжазагатоўкі. мясазагатоўкі, фінансавыя мерапрыемствы і інш.). Ліквідацыя кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі, перасяленьне раскулачаных за межы вёскі павінна стаць непарыўнай часткай барацьбы калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў за павышэньне тэмпаў калектывізацыі.

Барацьба за павышэньне тэмпаў калектывізацыі павінна быць цесна ўвязана і посьпех яе будзе забясьпечан пры ўмовах бязьлітаснага выкрыцьця і

барацьбы з апартунізмам і стаўкай на самацёк у калгасным руху, што мае пашыранае зьявішча ў радзе раённых і асабліва нізавых арганізацый і выяўляецца таксама ў слабой або поўнай адсутнасьці работы сярод бядняцка-серадняцкіх мас, асабліва сярод жанчын, барацьбы з кулацтвам і барацьбы з дапушчэньнем паўтарэньняў перагібаў у адносінах да серадняка.

3. Партыйныя арганізацыі павінны цьвёрда памятаць і забясьпечыць непахіснае прыстасаваньне наступных, паказаных XVI партзьездам, „карэнных марксыцка-ленінскіх прынцыпаў калгаснага руху, адступленьне ад якіх зьяўляецца цяжэйшым злачынствам супроць дыктатуры пралетарыяту; добраахвотнасьць, с.-г. арцель, як асноўная форма калгасу на даным этапе, улік гаспадарчых асаблівасьцяй раёну і г. д.“ (разьдзел 2 пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б). Неабходна шырока скарыстаць тыя новыя арганізацыйныя формы і мэтады работы, якія выявіліся на вопыце, і перш за ўсё стварэньне ініцыятыўных груп па арганізацыі калгасаў, арганізацыя буксірных брыгад калгасьнікаў і некалгасьнікаў, брыгад старых калгасьнікаў, вярбовачных камісій, зьлётаў калгаснай і некалгаснай моладзі, жанчын, пераклічкі і інш.

4. Разам з узмацненьнем тэмпаў калектывізацыі вялікая ўвага партыйных арганізацый павінна быць зьвернута на адну з важнейшых задач калгаснага будаўніцтва, якая таксама будзе забясьпечваць павышэньне гэтых тэмпаў, павышэньне якасьці работы ў калгасах, устанаўленьне ўнутрыкалгаснага распарадку і барацьбы з безгаспадарчасьцю, правільная арганізацыя працы, шырокая арганізацыя сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах, арганізацыя брыгад па асобных галінах вытворчасьці, павышэньне працоўнай дысцыпліны, поўнае выкананьне абавязацельстваў перад дзяржавай, барацьба са спажывецкімі настроямі ў часткі калгасьнікаў, ачыстка калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў.

„Асабліва павінны быць праправаваны ва ўсіх калгасах правілы разьмеркаваньня ўраджаю з тым, каб выключыць у далейшым якія-б там ні было элемэнты дзяльбы па душах. Вопыт гэтага году паказаў, што такога роду спажывецкія прынцыпы разьмеркаваньня ўраджаю зрываюць правільную арганізацыю працы ў калгасах; супроць разьмеркаваньня вынікаў працы адпаведна працы ў калгасах стаяць элемэнты кулацтва, гультаі, аматары скарыстаньня вынікаў грамадзкай працы, ня прымаючы ў ёй удзелу. Умовай сапраўднай пасьпяховасьці веснавой сяўбы зьяўляецца сапраўднае ажыцьцяўленьне ўсімі калгасамі правіл разьмеркаваньня ўраджаю, выключна ў адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю працы калгасьніка, або яго сям'і“.

(З пастановы ЦК УсеКП(б) ад 20-І 31 г.).

Адначасова прыняць меры замацаваньня арганізуемых калгасаў шляхам сваячасовага стварэньня насенных фондаў, аграмаджаньня асноўных сродкаў вытворчасьці, узмацненьня кіраўніцтва гэтымі калгасамі, у прыватнасьці выкананьня дырэктывы ЦК аб пасылцы на ўзмацненьне новых калгасаў ня менш 500 лепшых калгасьнікаў са старых калгасаў.

5. Улічваючы вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне і ролю МТС у справе калектывізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, партарганізацыі павінны рашуча змагацца з маючай месца недаацэнкай гэтага значэньня МТС і вузка-тэхнічным да іх падыходам і разгарнуць навакол арганізацыі новых МТС шырокую палітычную работу, каб забясьпечыць найбольш высокія тэмпы калектывізацыі ў раёнах дзейнасьці МТС. Забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё пастановы ЦК аб адзінаначальлі і няўмешваньні мясцовых арганізацый у апэрацыйна-гаспадарчую дзейнасьць МТС, злучаючы гэта з шырокай масавай работай МТС сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў—беднякоў і серадзякоў. Дагаворная кампанія павінна быць ператворана ў масавую палітычную кампанію для арганізацыі прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

6. Пленум ЦК рашуча асуджае меўшую месца недаацэнку як з боку асобных цэнтральных ведамстваў, так і раду раённых і мясцовых арганізацый ролі вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньняў і прапануе НКЗ, фракцыям сыстэмы с.-г. каапэрацыі, раённым і мясцовым партыйным арганізацыям дабіцца таго, каб на працягу 1931 году асноўная маса бядняцка-серадняцкіх г а с п а д а р а к, што не ўвайшла яшчэ ў калгасы, была ахоплена вытворчым каапэраваньнем. Разам з гэтым прыняць рашучыя меры да ачысткі вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньняў ад кулацкіх элемэнтаў.

Уся работа вытворча-каапэрацыйных таварыстваў павінна спрыяць уступленьню ў калгасы. Трэба, каб вытворчыя пляны веснавой пасеўнай кампаніі таварыстваў былі шчыльна ўвязаны з плянамі калгасаў, вёсак і складалі фактычна адзіны вытворчы плян.

7. Улічваючы вядучую ролю саўгасаў у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, а таксама вялізарныя тэмпы, якія намечаны кантрольнымі лічбамі ў галіне саўгаснага будаўніцтва, пленум абавязвае Наркамзем, саўгасныя трэсты і ўсе раённыя і мясцовыя партыйныя арганізацыі карэнным чынам палепшыць кіраўніцтва і ўвагу як да старых саўгасаў, гэтак і асабліва да будаўніцтва новых саўгасаў. Асабліва рушучая барацьба павінна быць абвешчана безгаспадарчасьці ў саўгасах і забясьпечана павышэньне працоўнай дысцыпліны, шырокае разгортваньне ўдарніцтва і сацспаборніцтва ў рабоце саўгасаў. Трэба ўзяць рашучы курс на камплектаваньне і падрыхтоўку пастаянных кадраў для асноўных спэцыяльнасьцяй у саўгасах.

Пры распрацоўцы вытворчых плянӑў саўгасаў неабходна асобна прадугледжваць мерапрыемствы па садзейнасьці наўкольным калгасам з боку саўгасаў (на аснове адпаведных гаспадарчых дагавароў), адначасова для распрацоўкі плянӑў саўгасаў павінны прыцягвацца прадстаўнікі калгасаў.

8. Намечаныя тэмпы і задачы па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі (будаўніцтва калгасаў і саўгасаў) забясьпечваюць рашучыя зрухі па яе спэцыялізацыі ў напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі і ільнаканапель. Выкананьне гэтых задач і тэмпаў павінна быць забясьпечана ўсёй практычнай работай партарганізацый. Гэта адначасова зьвязана з вырашэньнем пастаўленых партыяй ва ўсю шырыню праблем жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Пленум ЦК надае гэтай задачы асабліва баявое значэньне і падкрэсьлівае, што ад яе выкананьня будзе цалкам

залежыць гаспадарчае ўзмацненьне калгасаў і саўгасаў і павышэньне таварнасьці сельскай гаспадаркі. Пленум даручае Наркамзему, Калгасцэнтру, саўгасным трэстам і райкомам КП(б)Б у адпаведнасьці з устаноўленым раёнаваньнем БССР правесьці рэзкую спэцыялізацыю саўгасаў і калгасаў, адначасова ўцягнуўшы ў гэту справу і бядняцка-серадняцкія масы аднаасобнікаў.

Даручыць Наркамзему і дасьледчым установам на працягу 1931 году распрацаваць пытаньне аб асноўных пародах буйной рагатай жывёлы, якая дае ва ўмовах БССР найбольшую прадукцыйнасьць. У мэтах павялічэньня таварнасьці сьвінога стада правесьці на працягу двух год мэтызацыю ўсяго стада. Даручыць НКЗему, ВТПО, Калгасцэнтру распрацаваць дасканалы плян мерапрыемстваў па барацьбе з эпізоотыямі і хваробамі жывёлы.

У цеснай сувязі з плянам разьвіцьця жывёлагадоўлі павінна быць забясьпечана поўнае выкананьне намечаных заданьняў у галіне стварэньня кармовай базы (сіласаваньне, засеў адпаведных культур і г. д.).

9. У адпаведнасьці з намечанымі вялізарнымі задачамі у справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі неабходна рашучае ўзмацненьне адпаведнымі кадрамі ўсёй калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы, органаў НКЗему і кіраўніцтва саўгасамі. Пленум ЦК КП(б)Б даручае Бюро ЦК і райкомам КП(б)Б пераглядзець кадры калгасна-каапэрацыйнай сыстэмы і кіраўніцтва калгасаў, забясьпечыўшы іх партыйна-вытрыманымі кадрамі і адпаведнымі спэцыялістымі. Неабходна безадкладна перабудаваць сельска-гаспадарчыя навучальныя ўстановы, у першую чаргу Горацкую с.-г. акадэмію і тэхнікумы ў напрамку прыстасаваньня падрыхтоўваемых кадраў да спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР, павышэньня тэмпаў падрыхтоўкі. У прыватнасьці неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на масавую падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў.

10. Пленум ЦК КП(б)Б зацьвярджае плян і пастанову ЦК аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі і абавязвае райкомы КП(б)Б і ўсе адпаведныя цэнтральныя органы і ўстановы прыняць самыя рашучыя меры да таго, каб намечаныя плянавыя заданьні былі поўнасьцю выкананы. Пленум ЦК КП(б)Б разглядае ўсялякія гутаркі аб нерэальнасьці плянаў і імкненьне іх скарачаць, як праявы правага апартунізму на практыцы.

Існуючыя тэмпы падрыхтоўкі да веснавой сяўбы ні ў якім разе не забясьпечваюць выкананьня намечаных заданьняў. Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце да сяўбы няма яшчэ сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў, як да кампаніі, выкананьне плянаў якое зьяўляецца важнейшай часткай трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Пленум ЦК прапануе партарганізацыям і ўсім арганізацыям, ад якіх залежыць выкананьне плянаў веснавой сяўбы, на працягу бліжэйшых дзён стварыць рашучы пералом у падрыхтоўчай рабоце і абавязвае ўсе партарганізацыі пачаць зараз-жа масавую падрыхтоўчую работу да веснавой сяўбы, падпарадкаваўшы яе задачам арганізацыі масавага прыліву аднаасобнікаў у калгасы і стварэньню новых калгасаў.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партарганізацыі ўзяць пад свой непасрэдны нагляд ход загатовак насеньня траў і гародных культур з тым, каб забясьпечыць выкананьне плянаў у намечаныя тэрміны, прывесьці ў баявую гатоўнасьць і мабілізаваць усю тэхнічную і цягавую сілу, разгарнуць будаўніцтва, забясьпечыць крэдытамі. Неабходна на выкананьне плянаў веснавой пасеўнай кампаніі ўзьняць усю пралетарскую грамадзкасьць, узмацніць пралетарскую дапамогу гораду, мабілізаваць студэнцтва сельска-гаспадарчых і пэдагагічных навучальных установаў, а таксама актыў цэнтральных установаў, на правядзеньне масавай работы па калектывізацыі і на падрыхтоўку веснавой пасеўнай кампаніі, увязваючы ўсю гэту работу з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі. Мабілізацыю студэнтаў старшых курсаў сельска-гаспадарчых і пэдагагічных установаў на працу па ўзмацненьні тэмпаў калектывізацыі і падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі прыстасаваць да іх вытворчай практыкі.

У правядзеньні ўсёй гэтай вялізарнай работы трэба ўсямерна ўзмацніць сельскія саветы, якія яшчэ ня сталі сапраўднымі арганізатарамі калгасаў і не вядуць у большасьці выпадкаў рашучай барацьбы за пашырэньне калектывізацыі. Пленум ЦК прапануе ўжыць усе захады да таго, каб кожны сельсавет стаў сапраўдным арганізатарам калгаснага руху на вёсцы.

Пленум ЦК КП(б)Б рашуча папярэджвае партыйныя арганізацыі супроць недаацэнкі індывідуальнага сэктару сельскай гаспадаркі ў правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі і прапануе партыйным арганізацыям мабілізаваць сваю ўвагу на тое, каб плянавыя заданьні па веснавой сяўбе былі поўнасьцю выкананы і індывідуальным сэктарам сельскай гаспадаркі.

Уся КП(б)Б павінна праявіць бальшавіцкую рашучасьць і напружаньне ў справе правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі і ўсяго пляну сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Толькі барацьба на два фронты, пасьлядоўнае правядзеньне генэральнай лініі партыі забясьпечаць партыі выкананьне сапраўды бальшавіцкімі тэмпамі ўсяго грандыёзнага пляну сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

**„Асноўнымі ўмовамі пасьпяховага і хутчэйшага праадаленьня цяжкасьцяў зьяўляюцца паскарэньне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту“**

**(З рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).**



Новыя дамы камуны (Паўночны Каўказ).

# Калгас імя Варашылава

*(Брагінскі раён)*

Калгас нарадзіўся ў агні клясавае барацьбы ў канцы 1929 г. на землях працоўнага карыстаньня. На 1-е студзеня 1931 г. у калгасе абагулены поўнасьцю — зямля, інвэнтар, рабочая жывёла, прадукцыйная жывёла, гаспадарчыя будынкі і часткова хлеб. Усяго ў калгасе 104 гаспадаркі, ці 473 члены, з іх працаздольных 258.

З пададзеных лічбаў відаць, што з агульнай колькасьці насельніцтва калгасу толькі 273 чалавекі зьяўляецца працаздольнымі. На іх ускладалася ўся арганізацыйна-гаспадарчая дзейнасьць па калгасу.

Гаворачы аб зямельных угодзьдзях нельга абыйсьці міма садовае плошчы, якая, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву савету і энтузіязму калгасьнікаў, была даведзена да 22 *га*. Плошча пад садамі і ў далейшым будзе пашырацца. Маючыйся пладовы выхавальнік на 0,8 *га* дасьць патрэбную колькасьць саджанцаў як для сваёй гаспадаркі, так і для гаспадаркі бліжэйшых калгасаў.

Што датычыцца скарыстаньня пахаці, то пад азімае жыта і пшаніцу засеяна на 1931 г. 129 *га*, а пад яравыя культуры ў мінулым годзе было занята 439,96 *га*. Засеў рабіўся адсартаваным і пратручаным насеньнем. Усяго адсартавана было 354 цэнтнэры, а пратручана 326 цэнтнэраў, што складае да пасеўнага матэрыялу 100 проц.

Ня гледзячы на тое, што пасеў на 50 проц. быў заняты працаёмкімі культурамі, калгас з прыбіраньнем ураджаю справіўся. Валавы збор асноўнай прадукцыі (зерня, караньплодаў, валакна і г. д.) па культурах быў наступны:

| Назва культур | Валавы збор у цэнтн. |
|---|---|
| Бульба | 7.100 |
| Авёс | 1.058 |
| Ячмень | 814 |
| Лён на насеньне | 87,7 |
| Лён валакно | 73,7 |
| Віка на сена | 491,4 |
| Віка на насеньне | 393,1 |
| Кармавыя караньплоды | 533 |
| Проса | 836 |
| Яравая пшаніца | 103 |
| Тутун | 81,6 |
| Цукровыя буракі | 160,0 |
| Сена | 2.200 |

Прыглядаючыся да лічбаў ураджаю кідаецца ў вочы малы валавы збор з *га* па тэхнічных культурах. Выклікана гэта галоўным чынам навізною культуры як тытун, цукровыя баракі, так і адсутнасьць належнага ўходу з-за недахопу рабочае сілы.

З усяго збору ўраджаю, апрача сена, здадзена па кантрактацыі 964,6 цэнтн. і выдадзена і разьмеркавана членам 538 цэнтн.

З паляводзтвам у калгасе цесна зьвязана пытаньне аб цягавай сіле. На 1 студзеня гэтага году ў калгасе мелася



Сяляне-аднаасобнікі пішуць заяву аб уступленьні ў калгас.

107 рабочых коняй і 6 маладняку. У сярэднім на аднаго каня прыпадае 6 *га* пахаці. Апрача гэтага калгасам набыта *пяць трактароў з спэцыяльна трактарным інвэнтаром.* Усяго-ж сельска-гаспадарчага інвэнтару ў калгасе маецца больш як на 20.000 руб.

Адным з асноўных вучасткаў працы ў калгасе зьяўляецца жывёлаводзтва. Стан гадоўлі жывёлы пад канец году характарызуецца такою табліцаю:

| Назва жывёлы | Колькасьць |
|---|---|
| Кароў | 39 |
| Нецялей ад 2-х год | 18 |
| Быкоў ад 2-х год. | 1 |
| Бычкоў ад 1 да 2-х год. | 4 |
| Цялят ад 6 м-цаў да 1 году | 8 |
| Цялят да 6 м-цаў | 1 |
| Разам | 71 |

Вузлавым пытаньнем усёй дзейнасьці калгасу была арганізацыя працы, г. зн., расстаноўка, выкарыстаньне і вучот рабочае сілы. Каб адказаць, як калгас справіўся з гэтым балючым пытаньнем, неабходна прадэманстраваць некаторыя дадзеныя. Найбольшая напружанасьць працы ў гаспадарцы была ў маі месяцы, потым у красавіку, у чэрвені, ліпені і жніўні, у кастрычніку. На зімнія месяцы прыходзіцца мінімальная колькасьць дзён. Што датычыцца дзён працы мужчын, то болей усяго прыпадае іх на май—3.514 дзён, красавік—3.326, на чэрвень—2.572 і г. д. Максымальны лік жаночых рабочых дзён падае на чэрвень і кастрычнік. Найбольшую лічбу працоўных дзён падлеткі далі ў красавіку, маі і жніўні. Пададзенае яскрава гаворыць аб тым, што пераважную большасьць рабочых дзён адпрацавалі мужчыны—21.458 ці 74,9 проц., на долю жанчын прыходзіцца 5.870 ці 20,4 проц. і на падлеткаў—1.339 ці 4,7 проц.

Робячы падагуленьні трэба са ўсёй адказнасьцю зазначыць, што калгас імя Варашылава са ўскладзенай на яго працаю за мінулы год справіўся і тым самым на практыцы даказаў усім ныцікам і малаверам, апартуністым усіх масьцей, што генэральная лінія партыі цалкам адпавядае жаданьням шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Далей, няўвязкі ў скарыстаньні рабочае сілы на новы год будуць прадугледжаны вытворчым гадавым плянам. Правільная расстаноўка сіл, цьвёрдыя нормы выпрацоўкі, пры мэтадах сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, пры брыгадных мэтадах работы ўздымуць працоўную дысцыпліну, а асабліва сярод шырокіх мас працоўных жанчын.

**Ярмашэвіч.**

# Калгас „Новае Жыцьцё“ мае дасягненьні

(*Вушацкі раён*)

На адлегласьці 27 кілёмэтраў ад раённага цэнтру і 9—10 кілёмэтраў ад панскай Польшчы знаходзіцца калгас „Новае жыцьцё“, які арганізаваўся ў 1925 г. на плошчы ў 225,59 *га*, з якой пахаці 93,3 *га*, сенажаці 100,08 *га*, гародаў 2,4 *га*, садоў 7 *га*. На 15 сьнежня ўжо маем зямлі ў калгасе 312 *га*, г. зн., што зямельная плошча пашырылася на 87 *га*. Лік сямей на 1/1-30 г.—8, зараз ёсьць 38.

Калгас раней лічыўся як яўрэйскі нацыянальны, а зараз зьмешаны: беларусаў—53 чал., яўрэяў—46, палякаў—22.

### Забясьпечанасьць калгасу жывым і мёртвым інвэнтаром

У колгасе ёсьць коняй 42, з іх 9—маладняка, кароў—115, з іх 43 маладняка, сьвіней—59 шт., з іх матак 18 і авец 60. Паступіла ад кулацкай маемасьці (жывёлы) коняй—15, кароў—21. Такім чынам у калгасе значна ўзрос статак рабочай, рагатай і дробнай жывёлы, як-та: коняй на 24, кароў на 61, авец 43, сьвіней на 59.

Забясьпечанасьць мёртвым інвэнтаром відаць з наступных лічбаў: калі ў 1929 г. усяго інвэнтару мелася на 3.572 р. 88 к., дык у 1930 г.—на 4.954 р. 91 к. альбо ўзрост забясьпечанасьці інвэнтаром — 1.382 р. 91 к. Трэба сказаць, што калгас featured рознымі машынамі ў асноўным таксама забясьпечан: малатарак—4, жнейкі—2, касілкі — 2, сеялкі — 2, жмыхадрабілка—1, канюшынацёрка—1, культыватар—1, пружынных барон—5, розных плугоў—34.

### Становішча паляводзтва, аграмінімуму, уборачная, веснавая і асеньняя пасеўкампаніі 1930 году

У 1929 г. было занята азімымі 20 *га*, яравымі—27,75 *га*, канюшынай 28 *га*, гароднінай—2,5 *га*, за тое ў 1930 г. маем другія лічбы, як-та: пад азімымі пасеяна 41 *га*, яравымі 71,5 *га* і канюшына—28 *га*.

Веснавая і асеньняя пасеўкампаніі ў калгасе закончаны сваячасова. Уборачная кампанія праведзена з некаторай цяжкасьцю, асабліва па ўборцы бульбы, для чаго было нанята наёмнай сілы ў 267 рабочых дзён.

Аграмерапрыемствы і аграмінімум у калгасе амаль што ня ўжываецца, пад зяб узарана зусім нязначная колькасьць плошчы. Трэба зараз сказаць, што заданьне сарвана.

### Будаўніцтва ў калгасе

За 1930 г. сіламі калгасу пабудаваны адзін жылы дом, адрамантаваны сьвінарнік і таксама адрамантаваны адзін корпус скотнага двара. Але-ж ня гледзячы на гэта, заданьне, якое было па пабудове птушатніку (завод), каштоўнасьцю ў 35.000 руб., ня выканана. Да апошняга часу яшчэ не прыступілі да будоўлі з прычыны няўпраўкі калгасу і адсутнасьці вольных рук.

У 1931 г. будаўніцтва будзе яшчэ больш разгорнута: птушкаводны завод, дзіцячыя яслі, капітальны рамонт 2-х карпусоў, абора і інш. бягучы рамонт. Сур'ёзная ўвага павінна быць ададзена на пабудову жылых дамоў, бо жылая плошча ў цэнтры калгасу запоўнена, дзякуючы чаму калгас пакуль ня можа прыняць новых гаспадарак, якія ўліваюцца з аддалёных мясцовасьцяй ад калгасу.

Выкананьне калгасам загатовак наступнае:

| Заданьне па пляну<br>У тонах: | Выканана<br>У тонах: |
|---|---|
| жыта — 3,5 | жыта — 4 |
| бульбы — 9 | бульбы — 15 |
| капусты — 2 | капусты — 2 |

Пры калгасе ёсьць клюб і чырвоны куток, але працы не вядзецца: калгаснікамі да апошняга часу выпісвалася ўсяго 5 экз. газэт. Гэта ўсё гаворыць за тое, што культкамісія нядбайна адносіцца да свае працы; ня лепш працуе і санітарная камісія. Пры колгасе ёсьць

лікпункт, які ахоплівае 30 асоб, але наведваюць... 7 – 10 асоб.

Калгас праводзіць слабую работу сярод аднаасобнікаў акаляючых вёсак, дзякуючы чаму маем слабы прыліў у калгас.

Былі выпадкі разбазарваньня інвэнтару з боку некаторых калгасьнікаў, з боку старшага брыгадзіра нейкага Пухальскага, які зьяўляецца варожым элемэнтам, а таксама групоўкі супроць старшыні праўленьня калгасу т. Фейгіна, які зьяўляецца 25-тысячнікам.

У апошні час праўленьне калгасу прыняла меры супроць гэтых асоб, якія спрабавалі сарваць калгаснае будаўніцтва, агітавалі за разбазарваньне маемасьці. Пухальскі і іншыя з калгасу выключаны і перададзены ў пракуратуру.

Трэба таксама адзначыць, што партыйная ячэйка і сельсавет не кіравалі і не наладзілі працу ў калгасе, ня гледзячы на тое, што апошняя (ячэйка) знаходзіцца недалёка калгасу.

На гэтае кіраўніцтва трэба зьвярнуць больш увагі і райкалгассаюзу.

Калгас „Новае жыцьцё“ прыступіў да правядзеньня другой бальшавіцкай сяўбы.

**Гінзбург Янка.**

# З жыцьця калгасу „Дзесяцігодзьдзе БССР“

*(Магілеўскі раён)*

Гэта было ў 1922 годзе.

Некалькі беднякоў і серадвякоў Навасёлкаўскага сельсавету арганізавалі таварыства пад назвай „Поўнач“. Разьбіўшы зямлю асобнымі знакамі, бяз меж, адзначалі дзе чыя паласа—засявалі калектыўна, здымалі, малацілі, а пасьля дзялілі ўвесь ураджай па колькасьці маючайся ў кожнага зямлі. Атрымоўвалі сельскагаспадарчыя крэдыты і машыны, якія скарыстоўвалі старшыня калгасу і больш заможныя серадняцкія гаспадаркі з калгасу.

Такім чынам гэта быў ілжэкалгас. Садзейнічалі гэтаму „калгасу“ і дапамагалі інструктары Акркалгассаюзу. Старшынёй сельсавету ў той час быў сын старшыні гэтага ж калгасу „Поўнач“. Гэтак цягнулася да 1928 г., пасьля чаго калгас быў рэаргаянізаваны і назва яго зьмянілася. Дзякуючы добрай растлумачальнай працы, у канцы 1928 г. арганізаваліся яшчэ два пасёлкі і зьліліся з калгасам „Поўнач“ у адзін калгас.

Прайшоў год і Райкалгассаюз прыслаў добрага кіраўніка, старога сябра КП(б)Б тав. Лобатага. З таго дню пачалося новае. У зьвязку з сьвяткаваньнем 10-годзьдзя існаваньня БССР калгас зьмяніў сваю назву і назваўся калгасам „10-годзьдзя БССР“. Вясеннюю кампанію 1930 г. калгас выканаў больш як на сто процантаў.

Калгасьнікі зацікаўлены ў тым, каб як мага больш засеяць культурных расьлін. Вопытныя вучасткі, засеяныя на штучным угнаеньні, былі ўдалыя. Жыта ў калгасе засеяна да тэрміну чыстагатункowым насеньнем, пшаніца пасеяна „высокалітоўская“.

У час уборкі бульбы дапамагалі студэнты з паліт-асьветтэхнікуму г. Магілева. Ня вельмі даўно калгасу прырэзалі яшчэ 118 *га* зямлі з захаванай бліжэйшай вёскай. Усяе зямлі ў калгасе было 701 гектар, з якой пахаці звыш 500 *га*, сенажаці 75 *га* і лесу 25 *га*, саду 10 *га*,

**На загатоўчым пункце.**



Сялянка-серадбячка вязе здаваць хлебныя лішкі дзяржаве.



Падрыхтоўка к сяўбе. Калгасьнік аглядае сеялку.

астатняя пад няўдобіцамі і будынкамі. Зараз калгас налічвае 45 бядняцка серадняцкіх гаспадарак і 15 адзінак батракоў.

Рабочай жывёлы з маладняком—60 галоў. Кароў абагуленых 76, цялят 32, авец у калектыўным карыстаньні 200, з іх 50 процантаў пароды мэтысаў. Калгасу пастаўлена задача пабудаваць фабрыку мяса. У выкананьне гэтай задачы калгасьнікі разгарнулі будаўніцтва сьвінарніка на 100 галоў.

Уперадзе аднаасобнікаў ідзе калгас і па мабілізацыі грашовых рэсурсаў. Сельгаспадатак у суме 519 руб. выплачаны датэрмінова. Унесена запазычанасьць па крэдыту ў суме 1.655 р. Прынята самаабкладаньне на 100 проц. да сельгаспадатку і падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў 4 гады“ па 5 руб. кожны сябра. Усяго на суму 700 рублёў.

Пад зяб у калгасе ўзарана 80 гектараў. Машынамі калгас забясьпечан, за выключэньнем складанай малатарні і 7-лямешнага трактара „Манарх“. Прыбытак ураджаю ў гэтым годзе надта вялікі. У сярэднім на кожную гаспадарку валавы прыбытак складае суму ў 1.493 руб. 45 кап. Агульны валавы прыбытак у калгасе ровен суме ў 46.713 руб. 86 кап.

Прайшоўшы нядаўна агульны сход пастанавіў кожнаму калгасьніку завербаваць па 1-му адзінаасобніку. Гэта пастанова праводзіцца ў жыцьцё; на сёньнешні дзень завербавана 15 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і некалькі адзінак.

За бальшавіцкае правядзеньне васеньняй пасеўнай кампаніі 1930 г. калгас атрымаў ад рэдакцыі мясцовай газэты і Райкалгассаюзу чырвоны пераходны сьцяг імя „Камунара Магілеўшчыны“. Атрымаўшы пераходны сьцяг калгасьнікі далі слова высока трымаць сьцяг, нясупынна вясьці барацьбу за суцэльную калектывізацыю.

Гэця Модлін.

# ЗА ВЫСОКІ УРАДЖАЙ

## Барацьба з сажаю на збожжы—барацьба за высокі ўраджай

У папярэднім нумары часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ паказваліся лічбы аб страце на ўраджаі сартовага аўса сажаю. Зараз каротка застановімся на спосабах барацьбы з гэтым грыбком. Заўважу толькі, што барацьба з сажаю адначасова зьяўляецца і барацьбою за высокі ўраджай, за вызначаныя плянам пяцігодкі тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.

У барацьбе з сажаю неабходна ўявіць сабе адну простую зьяву, што пашыраецца сажа амаль выключна разам з насеньнем. Перадаецца заражонае сартавое насеньне з аднэй гаспадаркі ў другую (для замены несартовага і малаўраджайнага), а разам з гэтым пашыраецца і сажа. Без барацьбы з сажаю яе пашкоджаньне ў новым засеве можа толькі ўзрасьці

Адсюль зразумела, што на барацьбу з сажаю на сартовым насеньні, якое далей зьвіцца насенным фондам і пойдзе на засеў новых плошчаў саўгасаў і калгасаў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Не павінна быць ні аднаго выпадку, каб у саўгасе ці калгасе сартовае насеньне аўса і пры самай нізкай заражонасьці сажаю ў 1930 г. высявалася-б без пратручваньня. Наадварот, сартовае насеньне падлягае пратручваньню ў першую чаргу і найбольш уважліваму. Зразумела, што і несартованае насеньне падлягае таксама пратручваньню, калі яно ў наступным годзе было заражоным сажаю.

Галоўнай культураю для пратручваньня насеньня ў наступаючую вясну будзе авёс.

На падставе цэлага шэрагу досьледаў для пратручваньня аўса можна раіць пакуль што толькі фармаліну. Яна дае найбольш поўнае пратручваньне насеньня.

Для пратручваньня прадажную 40 проц. фармаліну разбаўляюць вадою 1:300. Пры меншай крэпасьці фармаліны і разбаўленьне трэба зьменшыць так, каб крэпасьць разбаўленай фармаліны ўсё-ж засталася 0,15 проц. Калі фармаліна засталася ад мінулага году і на дне пасудзіны мае ватападобнае асяданьне муці, дык яе трэба падагрэць, прысыпаўшы туды 1—2 *гр.* соды на 10 літраў неразбаўленай фармаліны.

Прыгатаваным растворам фармаліны насеньне аўса добра змачваецца ў адпаведнай машыне, а далей насыпаецца куча ў 25—40 *см* і на 2 гадз. прыкрываецца яшчэ бразэнтамі, мяшкамі (прамытымі ў фармаліне). Калі машыны для пратручваньня няма, дык для змачваньня аўса можна ўзяць садовую лейку з сітцам. Пры змачваньні насеньне ўвесь час добра перамешваецца, каб раствор ня траціўся без карысьці і каб кожнае зерне было змочана. Калі ў кучы змочваньне не ўдаецца, дык можна выкарыстоўваць вялікія карыты, жалабы і г. д. і там змачваць насеньне растворам фармаліны, Раствору бярэцца 10—12 літраў, а можна і 12—15 цэнтн. насеньня.

Змочанае і вытрыманае 2 гадз. прыкрытае насеньне неабходна добра прасушыць (на сонцы нельга) і ў 1—2 дні высеяць[1]). Перахоўваць яго ня раіцца, бо яно можа часткаю зьнізіць усходжасьць.

Для ячменю і асабліва для пшаніцы можна прымяніць сухі мэтад пратручваньня. Ён дае мажлівасьць пратручваньне правесьці хутчэй і за большы час перад засевам.

Для сухога пратручваньня па досьледах Бел. Зон. Станцыі Аховы Расьлін лепшымі прапаратамі зьяўляецца парыскі парашок (0,5 *гр* на 1 *клгр* насеньня), далей вуглякіслая медзь (1,5 *гр* на 1 *клгр* насеньня) і хромік калія (1,5 *гр* на 1 *клгр*). Апыльваньне праводзіцца ў спэцыяльных машынах, куды насыпаюць насеньне і адпаведную колькасьць парашку—атруты. У машыне насеньне пера-

[1]) Так-жа пратручваецца фармалінаю ячмень, пшаніца і проса.

мешваецца 5 мін. (парыскі парашок пажадана эканоміць для садовых культур.

У час працы з сухім пратручваньнем трэба прымаць прадасьцярогі, каб пыл парашкоў (асабліва хроміка калія) не пападаў у нос і рот. Рабочым неабходна надзяваць расьпіратары або абвязваць нос і рот мокрым ручнікам. Кожны дзень лепш мяняць рабочых. Апыленае насеньне атрутна. Перад апыльваньнем і наогул пратручваньнем насеньне неабходна ачысьціць на сартавальных машынах.

Барацьбу з пылаватую сажаю ячменю і пшаніцы на сартавым насеньні ў першую чаргу неабходна пачаць сэлекцыйным станцыям, каб ужо ў рэпродукцыю ішло зусім здаровае насеньне. Мэтад барацьбы—вымачваньне насеньня ў вадзе 25—30° С на працягу 4 гадз. і далей вытрымоўваньне ў гарачай вадзе 53—54° С на працягу 10 мін. (*С. Т.*).

**С. Тупяневіч.**

# ЗНАЧЭНЬНЕ САРТАВОГА НАСЕНЬНЯ БУЛЬБЫ

Нашым урадам пастаўлена задача да канца пяцігодкі павысіць ураджайнасьць на 30—35 проц. Гэтую задачу можна выканаць толькі пры тэй умове, калі нашы калгасы і саўгасы будуць шырока ўжываць хоць-бы прасьцейшыя агрыкультурныя мерапрыемствы, як, напрыклад: пасеў чыстагатунковым насеньнем, пасеў ачышчаным і адсартаваным насеньнем, рады пасеў, палепшаную апрацоўку глебы, правільнае ўгнаеньне глебы і г. д.

У нас магчыма ня толькі павышэньне ўраджаяў на 30—35 працантаў па бульбе, але і падваеньне іх, г. зн. павышэньне іх на 100 проц., прымаючы пад увагу, што нашы сярэднія ўраджаі па бульбе за апошнія гады роўны 80—85 цэнтнэрам на гектар. У гэтых адносінах нам павінна вельмі дапамагчы чыстагатунковае насеньне побач з другімі агрыкультурнымі мерапрыемствамі. Па шматлікіх даных дасьледчых устаноў нашага Саюзу мы бачым, што пры досьледах рада гатункаў заўсёды выдзяляецца некаторая група іх найболш ураджайных у даным раёне. Пры параўнаньні гэтых гатункаў з мясцовай, негатунковай бульбай мы бачым рад пераваг у гатунковай бульбе. Перш за ўсё большую ўраджайнасьць, больш высокую крухмалістасьць, устойлівасьць супроць хвароб і інш. Так, напрыклад, па даных масавага сортадасьледваньня бульбы ў розных раёнах БССР гатунак „Вольтман“ даў на 27,9 працантаў, а гатунак „Рэйтан“ на 29,2 працантаў большы ўраджай, чым мясцовая бульба, вырашчаная ў аднолькавых умовах з імі.

Калі-ж узяць па асобных пунктах, дык некаторыя гатункі перавышаюць ураджай мясцовай бульбы на 50 проц. і вышэй.

Па крухмалістасьці негатунковая бульба таксама часта ўступае гатунковаму. Па некаторых досьледах крухмалістасьць у гатунках вырашчаных пры аднолькавых умовах хістаецца так: 1) Вольтман меў 18,5 проц., 2) Сылезыя меў 15,9 працантаў, 3) Мясцовая бульба 12,9 процантаў крухмалу.

Праўда, ня ўсе гатункі маюць высокую крухмалістасьць, да іх можна аднесьці толькі спэцыяльныя завадзкія гатункі і частку сталова-заводзкіх. У такіх гатунках па некаторых гадах крухмалістасьць дасягае 24 працантаў і вышэй.

Гэтыя абставіны маюць вельмі важнае значэньне пры пераапрацоўцы бульбы на крухмал, патаку, сьпірт і інш. прадукты, так як чым вышэй процант крухмалу ў бульбе, тым выгадней яе пераапрацоўваць. І тым ніжэй будзе сабекаштоўнасьць выпрацоўваемай прадукцыі.

Чыстагатунковая бульба таксама менш схільна да захворваньняў і лепш захоўваецца. Вядомы цэлы рад гатункаў, якія мала паражаюцца небясьпечнай бульбяной хваробай, як фітафтора. Такая-ж устойлівасьць наглядаецца ў рада гатункаў супроць другіх хвароб, у тым ліку і хвароб выраджэньня. Негатунковая бульба, як правіла, заўсёды больш схільна да захворваньняў, і часта нават у другую палову лета настолькі моцна паражаецца хваробамі, што далейшы рост яе спыняецца.

Мы спыніліся толькі на галоўнейшых асаблівасьцях і перавагах чыстагатунковай бульбы. Многія гатункі маюць і рад

другіх каштоўных якасьцяй, як смак, форма і буйнасьць клубняў, хуткасьпеласьць і інш. Але ўсе гэтыя выгады ад чыстагатунковага насеньня можна атрымаць толькі ў тым выпадку, калі будзе правільна выбраны гатунак, г. зн., калі ён будзе падыходзіць да глебавых і кліматычных умоў данага раёну і будзе падабраны адпаведна кірунку гаспадаркі і прынятым у ёй спосабе выкарыстаньня бульбы.

Справа ў тым, што гатункаў бульбы вельмі шмат і ўсе яны чым-небудзь адрозьніваюцца адзін ад аднаго, і ні ў якім выпадку нельга думаць так, што калі чыстагатунковая бульба, значыць яна добрая. Яна можа быць добрая ў адным раёне і аказацца нікуды ня варта ў другім.

Вывучэньнем гатункаў бульбы ў гэтым кірунку займаюцца нашы дасьледчыя ўстановы і ў прыватнасьці Беларуская Зональная бульбяная станцыя. Вось на аснове гэтага вывучэньня ўжо можна гаварыць пра прыгоднасьць таго ці іншага гатунку для данага раёну, для данага тыпу глеб.

Гэтыя гатункі, відаць, можна рэкамэндаваць для разьвядзеньня ў БССР, і нашы насеннаводныя арганізацыі прыступілі да размнажэньня гэтых гатункаў у сваёй сыстэме з тым, каб у далейшым прасунуць іх у калгасы і саўгасы.

**Максімовіч.**

## Мэханізацыя культуры бульбы.

У сучасны момант партыяй і Савецкай уладай рашуча ставіцца пытаньне аб адпаведным разьмяшчэньні сельскагаспадарчых культур па СССР, аб спэцыялізацыі раёнаў. БССР вялікую ўвагу звярачвае на культуру бульбы, якая ўжо займае значны процант пасяўной плошчы. Згодна даным НКЗ БССР, у сярэднім за 3 гады (1926, 1927 і 1928) мы маем на полі і на сядзібе 12,81 процант ад усяе пасяўное плошчы пад бульбай. У далейшым гэты процант будзе значна павялічаны.



Бульба зьяўляецца культурай інтэнсыўнай; яе пасадка і асабліва зборка патрабуюць шмат рабочых рук. Пры

недахопе зараз рабочых рук пытаньне мэханізацыі культуры бульбы набывае асаблівае значэньне.

Менская машынаспробная станцыя ўдзяляе значнае месца ў сваёй працы апрабаваньню машын, мэханізуючых культуру бульбы. Увесну мінулага году апрабавалася бульбасажалка вырабу нямецкае фірмы Гартунг і рабілася пасадка бульбы ў саўгасе Лошыца. Два чалавекі (трактарысты і рабочы пры бульбасажалцы) могуць засадзіць за 10 гадзін 4 *га*. Пры ручной-жа пасадцы пад плуг на 4 *га* патрэбна 8 пар коняй, 8 чалавек пры конях і ня менш 12 жанчын. Поле пасьля працы гэтае машыны мае выгляд як пасьля працы асыпнікам. Увосені апрабавалася элеватарная бульбакапалка Мак-Кормік Дырын (амэрыканская) на тым-жа полі саўгасу Лошыца, дзе бульба садзілася бульбасажалкай; гэтак і на палёх саўгасу Вязынь-Фаніпаль саўгасу бульбяной станцыі і на тэрыторыі выстаўкі. Машына за 10 гадзін выконвае 2 *га* (у залежнасьці ад гушчыні радкоў) пры 16—18 падборшчыках замест 24—30 пры выконваньні конным плугам. Машына працавала з трактарам „Інтэрнацыянал" 10/20 НР, як і пры пасадцы бульбы.

Пры належнай глыбіні ходу лямеша бульбакапалкі ў 20—22 *см* у зямлі застаецца ня больш 4 процантаў бульбы. Коламі трактара і бульбакапалкі, а таксама лемешам і элеватарам псуецца прыблізна таксама 4 проценты ад усяе бульбы. Перад працай націну неабходна ўбіраць, што павінна рабіцца для сіласу. Можа працаваць бульбакапалка і з нескошанаю націнаю, але часьцей будзе забівацца. Выкапаная бульба застаецца на паверхні поля і яе трэба толькі зьбіраць.

Некаторая частка дробнай бульбы прахолзіць праз элеватар і засыпаецца зямлёй, але выбіраць бульбу ня цяжка таму, што зямля, якая яе засыпае, зусім пухкая.

Гэтыя дзьве машыны значна палягчаюць культуру бульбы і даюць магчымасьць нашым саўгасам і калгасам значна павялічыць плошчу пад бульбай, павялічыўшы гэтым і сваю прыбытковасьць. Мэханізацыя культуры бульбы дае значную экономію як грашовых выдаткаў, гэтак і страт рабочай сілы. Але ўсё гэта патрабуе яшчэ ўдасканаленьня і паляпшэньня іх канструкцыі. Мэханізацыя ўборкі бульбы ня будзе поўнай без таго, каб бульбу магчыма было і зьбіраць, хаця-б і ў невялікія кучкі. Над гэтым пытаньнем завострываюць сваю думку нашы вынаходнікі, і трэба спадзявацца, што ў бліжэйшыя часы гэтае пытаньне будзе вырашана, але нават ужываньне машын і ў выглядзе такім, які яны маюць зараз, дае вялікі гаспадарчы эфэкт.

Афонскі

# АБ КАНЮШЫНЕ

Ва ўмовах БССР і тым больш, ва ўмовах яе большай паўночнай часткі культура чырвонай канюшыны зьяўляецца вельмі важнай культурай. Натуральна, гістарычныя і эканамічныя ўмовы краіны ствараюць зусім выразны напрамак разьвіцьця сельскае гаспадаркі пад знакам большай інтэнсіфікацыі, пашырэньня ўдзелу тэхнічных культур і значнай увагі жывёлагадоўлі.

Кармавая праблема, праблема ўгнаеньня і самая пачатковая, элемэнтарная і ў той-жа час грунтоўная праблема пладазьмена—у выключна вялікай частцы арыентуецца на канюшыну.

Пашыранасьць культуры канюшыны па БССР характарызуецца ў сучасны момант лічбай каля 3 процантаў агульнай пасяўной плошчы. У даваенны час яна займала 2,2 проценты. Хуткае павялічэньне плошчы пад канюшынай прыпадае на самыя апошнія гады. Наогул-жа недастатковая пашыранасьць канюшыны і яе нязначная вага ў параўнаньні з іншымі культурамі знаходзіць сабе тлумачэньне ў агульным крызісу і тупіку раскіданай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, ва ўмовах якой немагчымы ніякія сур'ёзныя мерапрыемствы ва ўсіх напрамках. Сацыялістычная рэканструк-

цыя сельскай гаспадаркі руйнуе гэты асноўны прыпынак, і культура канюшыны набывае ў гэтых умовах нябывалыя магчымасьці.

Умовы буйнай гаспадаркі, умовы калгасаў, якія будуюцца на месцы ўчорашняй трохполкі з някультурным станам глеб гаспадаркі,—беднасьцю апошніх пры значнай няхватцы ўгнаеньняў у першы пэрыяд і неабходнасьці пашыраных пасеваў гэтай культуры ў грунтоўных севазваротах,—прад'яўляюць зусім іншыя запатрабаваньні. Тут патрэбен ня толькі ўраджайны тып. Ступень устойлівасьці формы ў гэтых умовах набывае першаступеннае значэньне. Калі ва ўчорашняй дробнай гаспадарцы няўдалы год зьнішчаў пасеў канюшыны—гаспадарка пазбаўлялася толькі дадатковых кармовых сродкаў. Ва ўмовах калгасу — такая зьява зьнішчае грунтоўную базу. Таксама вельмі актуальнай праблемай у гэтых умовах становіцца насенная прадукцыя канюшыны. Забесьпячэньне ўласным насеньнем зьяўляецца бязумоўнай задачай кожнай гаспадаркі.

Ня гледзячы-ж на вялікае значэньне гэтай культуры, як галоўнага дапаможца ў справе рэвалюцыянізаваньня мэтадаў сельскае гаспадаркі і яе агульнай рэканструкцыі ў нашых умовах, усе прыведзеныя пытаньні да сучаснага часу распрацаваны, трэба сказаць, у вельмі слабай ступені. Сэлекцыя канюшыны не дала да гэтага часу добрых гатункаў канюшыны. Усё-ж сучасныя „гатункі“ яе зьяўляюцца вельмі складанымі мешанінамі, якія разьмяжоўваюцца толькі па месцу паходжаньня. Мы маем зараз толькі аснаўныя тыпы канюшыны—скарасьпелы і познасьпелы, але за тое тыпы гэтыя зьяўляюцца вельмі рознымі формамі.

Скарасьпелы тып — гэта выхаванец паўднёвых умоў, з цёплым кліматам, доўгім летам. Гэтыя ўмовы стварылі форму, якая хутка расьце, рана зацьвітае і хутка адрастае пасьля першага ўкосу. Гэта форма характарызуецца двухукоснасьцю.

Познасьпелы тып—выхаванец паўночных умоў, з суровым кліматам і больш кароткім летам. У гэтых умовах стварыўся тып, які павольней расьце, пазьней зацьвітае і пасьля першага ўкосу звычайна не дае сьцяблоў, а толькі прыкарнявую разэтку лісьцяў, атаву. Гэта тып аднаўкосьніка.

Ня гледзячы на аднаўкоснасьць, апошні тып у суровых паўночных умовах заняў сталае першае месца па ўраджайнасьці. Шматгадовыя даныя Шацілаўскай і Краснахарскай дасьледчай станцый, потым дадзеныя Ленінградзкай вобласьці і часткай даныя нашай суседняй Энгельгардтаўскай станцыі зусім пэўна гэта вырашылі.

Але поруч з данымі гэтых устаноў, мы зараз маем і зусім процілеглыя даныя. Ва ўмовах Носаўскай сэлекцыйнай станцыі (лесастэп Украіны) па ўсіх гэтых адзнаках на першым месцы стаіць мясцовы скарасьпелы тып. Ня толькі ўраджайнасьць, але і ўстойлівасьць супроць зімоўкі ў гэтых добрых умовах большая ў скарасьпелым тыпе. Вялікую ўвагу зьвяртае на сябе яшчэ факт значна большага выпадзеньня познасьпелага тыпу ў летні час, які выклікаецца мясцовымі шкоднікамі біолёгічнага характару.

Гэты факт паказвае на неабходнасьць безадкладнага раёнаваньня гатункаў, бо, як бачым, у адных умовах на першым месцы стаіць адзін тып, а ў другіх—гэты тып уступае сваё месца другому. БССР ляжыць на сярэдзіне паміж паказанымі процілеглымі пунктамі. Умовы большай часткі нашай краіны стаяць бязумоўна бліжэй да ўмоў паўночных станцый. Другая-ж, паўднёвая частка, мае іншыя ўмовы.

Таму і на абшарах БССР сортасправаваньне канюшыны дае неаднальковыя вынікі.

На падставе маючых дасьледчых даных Наркамзем БССР намячае наступныя граніцы раёнаваньня:

Паўночная частка БССР: Полацкая, Віцебская, Аршанская, Магілеўская і паўночная частка Менскай акругі спрыяюць гадаваньню аднаўкоснага тыпу канюшыны, але з добрай адрастаемасьцю атавы (тып сярэдня-расійскае канюшыны); паўднёвая-ж частка БССР—поўдзень Менскай акругі, Бабруйская, Гомельская і Мазырская акругі спрыяюць гадаваньню



Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў.

двуўкоснага паўднёвага тыпу канюшыны (Носаўскай станцыі).

Большасьць патрэб БССР у насенным матар'яле канюшыны здавальнялася да апошняга часу за кошт увозу, бо мясцовая насенная прадукцыя гэтай культуры знаходзілася да апошняга часу ў заняпадзе. У гэтым—толькі ў вельмі нязначнай ступені—знайшлі адбітак кліматычныя ўмовы мясцовасьці. Галоўная маса ападкаў вэгетацыйнага пэрыяду прыпадае якраз на пэрыяд цьвіценьня канюшыны, што адбіваецца ў кепскі бок на насеннай прадукцыі. Але гэты фактар не настолькі сур'ёзны, каб была немагчымай насенная прадукцыя канюшыны, бо і ў нашых руках ёсьць магчымасьць весьці пасьпяховае змаганьне з гэтым фактарам. Застаўляючы на насеньне другі ўкос двуўкоснай канюшыны, мы можам адсунуць момант цьвіценьня да часу больш добрага надвор'я.

Сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі ламае гэту руціннасьць. Умовы буйнай гаспадаркі даюць поўную магчымасьць стварэньня адпаведнай тэхнікі. Машынізацыя і мэханізацыя прыборкі і апрацоўкі матар'ялу руйнуе галоўныя прыпынкі. У гэтых умовах насенная прадукцыя канюшыны набывае вялізарныя магчымасьці.

Для хутчэйшага разьвіцьця мясцовага канюшыннага насеннаводзтва неабходна шырэй разгарнуць мэтад кантрактацыі і зьвярнуць вялікую ўвагу на забесьпячэньне буйных няцывілізаваных насеннаводных гаспадарак адпаведнымі машынамі, асабліва машынамі апрацоўкі ўраджаю канюшыны.

Пакуль сэлекцыйныя ўстановы не дадуць нам пэўных і добрых гатункаў для розных раёнаў—уся ўвага павінна быць зьвернута на мясцовае насеннаводзтва канюшыны, пры якім магчыма спадзявацца на натуральную сэлекцыю. З мэтай высьвятленьня месц гадаваньня найбольш каштоўных форм гэтай расьліны—неабходна ў хутчэйшым часе праз кантрольна - насенныя станцыі ці іншыя ўстановы правесьці дэталёвае абсьледваньне гэтай культуры, зрабіўшы запаведнікі ў асяродках натуральнай сэлекцыі. Гэтыя запаведнікі, пры значнай да іх увагі адпаведных органаў і пры максымальным скарыстаньні для мэт насеннай прадукцыі канюшынных плошчаў існуючых саўгасаў і калгасаў, дадуць магчымасьць стварэньня фонду насеннага матар'ялу на бліжэйшы час і матар'ялу, які будзе значна больш адпавядаць умовам розных частак краіны, чым матар'ял выпадковых завозак, часам зусім з неадпаведных месц свайго паходжаньня.

**Лаппа А. У.**

# Увага гародніне!

## Гароднае насеннаводзтва пры сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі

Сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі неразрыўна зьвязана з пашырэньнем пасеўнай плошчы, мэханізацыяй і заменай беспасрэднага насеньня сэлекцыйным. Ня гледзячы на вялікія дасягненьні і значны рост распаўсюджваньня сартавога насеньня, усё-ткі гэта зьяўляецца яшчэ недастатковым пры арганізацыі буйных саўгасаў і калгасаў, якія патрабуюць яшчэ больш узмоцненых тэмпаў разьвіцьця сартавога насеннаводзтва.

Да гэтага часу шмат яшчэ абсемяняецца насенным матар'ялам невядомай якасьці і невядомага паходжаньня. Дзякуючы гэтаму ўраджай сельскагаспадарчых прадуктаў бывае вельмі нізкім і пасевы іх ня могуць перанасіць розных няспрыяючых кліматычных умоў, а таксама пашкаджаюцца рознымі хваробамі і шкоднікамі.

Асабліва востра стаіць пытаньне з насеньнем гародніны. Яшчэ і ў сучасны момант значную колькасьць гароднага насеньня прыходзіцца атрымліваць з-за мяжы, тады як размаітасьць глеб і кліматычных умоў нашага Саюзу ССР даюць нам магчымасьць вывесьці дастатковую колькасьць насеньня ня толькі для сваіх патрэб, але-ж і для экспарту. Для гэтага нам трэба дэталёва падыйсьці к вырашэньню раёніраваньня культур і сартоў.

Вялікае значэньне ў справе насеннаводзтва маюць даўжыня вэгетацыйнага пэрыяду для розных культур. Па назіраньням Віцебскай дасьледчай станцыі для капусты патрэбна 135—145 дзён, для морквы 140—159 дзён, для бручкі 106—221, турнэпсу 80—90, рэдзькі 135—145, рэпкі 70—80 дзён. Па даным-жа гэтага году, безмарозны пэрыяд быў толькі 122 дні, а ў 1928 г.—146 дзён.

Пагэтаму перш, чым устанаўліваюць раёны насеннаводзтва, неабходна ведаць безмарозны пэрыяд той мясцовасьці, дзе думаюць заняцца той ці іншай культурай. Вось гэты грунтоўны пункт прымушае нас сур'ёзна падыйсьці к пытаньню падрыхтоўкі насеньнікаў.

Раньняя высадка залежыць ад глебавых умоў, найлепшымі глебамі для насеньнікаў будуць супяшчаныя і лёгкі суглінак. Блізкасьць грунтавой вады і цяжкія вільготныя глебы кепска адбіваюцца на разьвіцьці насеньнікаў.

Большая колькасьць гародных культур зьяўляюцца двухгадовымі, так што пры насеннаводзтве трэба умець ня толькі вырасьціць капусту, моркву і іншыя, але-ж трэба ўмець і захаваць у зімовы тэрмін.

Пытаньні захаваньня насеньнікаў маюць рашучае значэньне ў працы гароднягa насеннаводзтва, між тым яны зусім не распрацаваны, і на практыцы сустракаемся з шэрагам памылак. Хаваюць насеньнікі рознымі спосабамі: у падвалах, буртах і г. д.—у залежнасьці ад працягу і суровасьці зімы, а таксама і ад глебавых умоў.

На ўраджай насеньня мае вялікі ўплыў угнаеньне глебы. Пад насеньнікі гной трэба ўносіць з восені, а вясной дадаваць дадаткова штучнае ўгнаеньне, галоўным чынам фосфарныя і калійныя. Ужываньне якіх, па даных станцыі, у пэрыяд філалогічных назіраньняў, надае больш пасьпяховы тэмп разьвіцьцю і пасьпяваньню, асабліва на дзялянках з фосфарным і калійным угнаеньнем. Ураджай насеньня быў вышэй кантролю на 25 проц.

Пры невялікіх плошчах пасадку праводзяць пад лапату па маркеру, а пры

вялікіх плошчах можна садзіць пад плуг на адлегласьці 70 сант. як у радох, так і паміж радкоў. Для правільнай пастаноўкі гароднага і кораньплоднага насеньнаводзтва, для ўстанаўленьня асноўных палажэньняў тэхнікі насеннаводзтва—неабходна, аднaчасна з усесаюзным іспытам культур, правесьці ўсесаюзныя іспыты насенных культур і для паглыбленьня, пашырэньня (культур) працы і павышэньня чыстанасеннага матар'ялу. Неабходна арганізаваць пры сэлекцыйных станцыях аддзелы насеннаводзтва, у задачы якіх павінна ўваходзіць непасрэднае кіраўніцтва першай прадукцыяй пры станцыі і другой, якая перадаецца калгасам і саўгасам. Гэтыя гаспадаркі павінны быць у раёне падыходзячымі па глебавым і кліматычным умовам і ня імкнуцца к непасрэднай блізасьці вялікіх спажываючых пунктаў, дзе гародніна сама знаходзіць шпаркі і лёгкі збыт. Насеннаводныя гаспадаркі павінны быць мэханізаваны, абсталяваны спэцыяльнымі захавальнікамі насеньнікаў, павінны мець набор чыстазернасьці і апрацоўваючых машын, сушылку і інш. Усё гэта неабходна таму, што ў залежнасьці ад насеннаачысткі залежыць посьпех насеннаводзтва. Пытаньне разьмежаваньня прадукцыі розных сартоў, не заўсёды рэгулюецца, чаму назіраюцца выпадкі аднaчасовай рэпрадукцыі ў адным месцы насеньня аднолькавых культур, што ня можа гарантаваць вытрыманасьць сорту.

Для пашырэньня аграасьветнай працы неабходна адчыняць пэрыядычныя тэрміновыя курсы для падрыхтоўкі гароднікаў і тэхнікаў па насеннаводзтву з саўгаснага і калгаснага актыву і працу дасьледчых станцый наблізіць да вытворчасьці.

**Т. Трафімава.**

# Ня ўпускаць час

Нашым калгасам і саўгасам зараз ужо пара паклапаціцца аб набыцьці гароднага насеньня для веснавой пасеўнай кампаніі 1931 г. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на раньнюю гародніну. Раньнюю гародніну неабходна ўводзіць ва ўсіх калектыўных гарадох як вясковых, так і гарадзкіх. Яна павінна заняць пачэснае месца, для патрэб калгасьнікаў, рабочых і рэшты працоўных мас. Трэба памятаць аб тым, што гародніна павінна кампэсаваць недахоп мяса, а таму ў асартымэнт гароднага насеньня трэба абавязкова ўвесьці і бабовыя расьліны, як гарох, фасолю звычайную і шпаргавую. Трэба хутчэй перамагчы руціну і забывацца пра дзедаўскія звычкі сеяць на Беларусі толькі капусту, гуркі, буракі і моркву. У далейшым неабходна, каб гародніцтва пайшло не па шляху саматужнага гародніцтва, а па шляху, які адказвае новым умовам жыцьця ў БССР.

Трэба, каб значная колькасьць гароднае плошчы ў гэтым годзе была пакрыта памідорамі, радыскай, салатай, шпінатам, гарбузамі, кабачкамі, кіяхамі, кветкавай капустай, чырвонакачаннай капустай, цукровым зялёным гарохам і шпаргавай фасоляй. Усе гэтыя культуры добра растуць у нас і даюць добрыя ўраджаі.

Прапаганда гэтых культур павінна быць шырока разгорнута. Неабходна, каб прафэсыйныя органы, рабочая кааперацыя і НКАЗ разгарнулі шырокую кампанію сярод насельніцтва за кармленьне гароднінай і, у прыватнасьці, за раньнюю гародніну.

Вялікі недахоп нашага гародніцтва ў тым, што мы разводзім асеньнія гатункі. Увосень у нас багата гародніны, а ўвесну яе зусім няма, а калі і бывае, дык па вельмі няпрыступнай рабочаму цане.

Значэньне раньняй гародніны для кармленьня і здароўя чалавека вельмі вялікае. Сьвежая гародніна багата вітамінамі, а вітаміны, узбудзіцелі жыцьцёвай энэргіі. Без вітамінаў усякі жывёлавы арганізм слабее і хварэе. Вітамінамі падтрымоўваецца дзейнасьць сэрца і адхіляюцца некаторыя хваробы. Але вітаміны, на жаль, вельмі нясталы. Яны лёгка

руйнуюцца пры працяжнай варцы гародніны, і апошняя губіць сваё першапачатковыя ўласьцівасьці, якія яна мела ў сырым відзе. Пагэтаму трэба раіць ужываць гародніну больш у сырым відзе, галоўным чынам у відзе рознае салаты (зеляніны). Такім чынам, раньняя гародніна будзе іграць вялікую ролю ў справе аховы здароўя працоўных і дапамагаць здароўю моладзі.

Такім спосабам, за пашырэньне асортымэнту гародніны!

Хутчэй за працу—працы багата!

**С. Яфрэмаў.**



На сходзе аднаасобнікаў. Галасуюць за арганізацыю калгаса.

**Кожны селькор, культработнік, камсамолец, актывісты павінен распаўсюджваць часопіс „Шляхі Калектывізацыі".**

Рэдкалегія: Аўчыньнікаў, Бондар, Паніматка, Самусевіч, Сямашка (адказны рэдактар).

## ЗЬМЕСТ

ЦАНА 15 кап.

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

ЧАСОПІС **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТО-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год — 24 нумары | . . | 3 руб. | |
| „ 6 мес. — 12 „ | . . | 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ — 6 „ | . . | — — | 75 „ |
| „ 1 „ — 2 „ | . . | — — | 25 „ |

Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу

Адрас рэдакцыі часопісу:

*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 245. 5.000 экз. Галоўлітбел № 245.